# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

29 сакавіка 2019 года №13 (1248) 18+


# У Маладзечне збіраюцца адкрыць начлежку ля дзіцячых садкоў і гімназіі. Бацькі абураюцца



старонка 3

Фота «Рэгіянальнай газеты».







## Не магу жыць з суседам па блоку

старонка 2

## Віляйчанка атрымала дармаедскую жыроўку

старонка 21

ISSN 1991–7155



Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



## У Вілейцы – новы намеснік старшыні райвыканкама па эканоміцы

ВІЛЕЙКА

Новага намесніка прадставілі 22 сакавіка на пасяджэнні райвыканкама і сесіі раённага Савета дэпутатаў. Гэта **Марына Пятроўна Вазняк**.

Да прызначэння яна працавала начальнікам вытворчага цэха ў філіяле Маладзечанскага малочнага камбіната ў Вілейцы.

У 2018-м яе абралі дэпутатам ад Горкаўскай акругі №11 у Вілейцы.

Да ліпеня 2018 года на гэтай пасадзе працаваў **Генадзь Касцевіч**.

Як паведамляе сайт Вілейскага райвыканкама, намеснік старшыні курыруе пытанні эканомікі, падаткаў, грашова-крэдытнай палітыкі, інвестыцый, маёмасных адносін і іншыя.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Віляйчанка атрымала залаты медаль у Адкрытым кубку па ўсходніх танцах

ВІЛЕЙКА

Удзельнікаў было каля 600 чалавек. З Вілейкі **Надзея Аўдзей** была адна. Яна выступала пад нумарам 151. Астатнія танцоры – пераважна з Бабруйска і Мінска.

Надзея ўдзельнічала ў намінацыі «Дарослыя-1. Сола», дзе выступалі танцоры ад 25 да 30 гадоў.

З аўтарскім танцам яна заняла ў сваёй намінацыі першае месца.

Танцамі займаюся чатыры гады. Паступова захапленне стала адным з важных накірункаў жыцця, – расказала Надзея карэспандэнту «Рэгіянальнай газеты».

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Юбілейны фэст экскурсаводаў правядуць у красавіку

У межах фэсту зладзяць экскурсіі па гарадах рэгіёна.

18 красавіка ва ўсім свеце па ініцыятыве ЮНЭСКА адзначаюць Міжнародны дзень помнікаў і мясцінаў. У Беларусі да гэтага свята прымеркаваны Фэст экскурсаводаў, падчас якога бясплатна можна трапіць на самыя разнастайныя ўнікальныя экскурсіі па Беларусі, а таксама ў замежжы.

Фэсту экскурсаводаў ёсць магчымасць звярнуць увагу беларускага грамадства на тыя помнікі, якія знаходзяцца побач з намі. Часам мы нават не ўяўляем, наколькі багатая гісторыя тых месцаў, дзе мы жывём.

– Вандроўкі ў межах фэсту – гэта не толькі пра велічныя замкі і манументальныя палацы, але і пра дарагія сэрцу невялікія дамкі, заняпалыя сядзібы – усё, што стварае непаўторнасць роднага краю, – кажуць арганізатары.

Сёлета Фэст экскурсаводаў юбілейны: свята, якое адбудзецца 13-14 красавіка, ладзіцца ў дзясяты раз. Запланавалі юбілейныя навінкі: квэсты для дзяцей і дарослых, незвычайныя маршруты па «звычайных» мясцінах.

Стваральнікі фэсту не ставяць сабе мэту павялічыць колькасць бясплатных экскурсій, але будуць больш пільна адсочваць іх якасць.

Экскурсіі ў межах фэсту могуць праводзіць не толькі прафесійныя экскурсаводы, а і выкладчыкі гісторыі, краязнаўцы, даследчыкі.

Як расказалі арганізатары карэспандэнту «Рэгіянальнай газеты», да 1 красавіка экскурсаводы рэгіструюцца да ўдзелу ў фэсце. Дакладны спіс будзе пасля гэтай даты. Ужо ёсць 54 экскурсіі.

Мы звязаліся з краязнаўцам **Уладзімірам Садоўскім**, які ладзіў летась экскурсію ў Маладзечне.

– Сёлета ў межах фэсту 13 красавіка таксама правяду экскурсію па былым польскім вайсковым гарадку Гелянова, – падзяліўся Уладзімір. – Ёсць новыя факты.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Рэгіструюць валанцёраў, гатовых паўдзельнічаць у акцыі «Тыдзень лесу-2019»

СМАРГОНЬ

Смаргонскі доследны лясгас рэгіструе добраахвотных удзельнікаў акцыі «Тыдзень лесу-2019», прысвечаную Году малой радзімы і 75-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сёлета акцыя пройдзе ад 13 да 20 красавіка.

Першымі зарэгістраваліся школьнікі з моладзевага парламента пры Смаргонскім раённым Савеце дэпутатаў.

Удзельнікаў акцыі лясгас забяспечыць прыладамі працы і пасадачным матэрыялам, даставіць транспартам лясгаса да аб'ектаў работ і назад.

Рэгістрацыя грамадскіх аб'яднанняў, калектываў і добраахвотных удзельнікаў праходзіць па тэлефонах: **8 (01592) 37-1-21, 32-4-52** і па электроннай пошце **priemnaja.smorlhz@tut.by**.

**Аддзел інфармацыі.**




Праблему з пакоем у інтэрнаце для Дыяны Прывалінскай і яе дачкі пакуль не вырашылі. Але абяцаюць.

# Ноччу плачу ад адчаю і безвыходнасці

## Маладзечанка – пра жыццё ў інтэрнаце з асацыяльным суседам

**Маладзечанка Дыяна Прывалінская з шасцігадовай дачкой Міланай жыве ў інтэрнаце «Будаўніка-169» на Скарыны, 17 у Маладзечне. Кожны вечар жанчына як мага даўжэй адцягвае прыход дадому.**

МАЛАДЗЕЧНА

Прычына – суседзі, з якімі Прывалінскія ад 2011 года жывуць разам у блоку.

### Штодзень – п'янкі і нецэнзуршчына

– Мы жывём у вялікім пакоі, а побач у маленькім – сусед з сужыткай. Прапісаны ў пакоі толькі мужчына. Сужытніца не прапісаная, таму пасля 11 вечара ўвогуле павінна сыходзіць. Суседзі не працуюць, кожны дзень п'юць, шумяць, да іх прыходзяць госці, чалавек па 10-12. Пасядзелкі працягваюцца да ночы.

> По словах Дыяны, часта такія гасцяванні заканчваюцца бойкамі. Тады ў прыхожай, у ванне, у прыбіральні – сляды крыві.

– Сама б я, можа, яшчэ цярпела, але шкадую шасцігадовую дачку, – дзеліцца маладая мама. – Яна штодзень чуе нецэнзурныя словы, крыкі, ноччу нармальна не можа спаць. Бывала такое, што не засынала да чатырох раніцы. Нават у прыбіральню я яе не пускаю, бо там нядоўга і заразу падчапіць. Дзяўчынцы шэсць гадоў, а яна вымушаная хадзіць у пакоі на гаршчок.

### А што будзе, калі дачка пойдзе ў школу?

Дыяна прызнаецца, што баіцца падумаць пра той час, калі дзяўчынка сёлета восенню пойдзе ў школу. Прыйдуць настаўнікі паглядзець, дзе жыве першакласніца. І што яны ўбачаць?

У пакоі Прывалінскіх заўсёды парадак. Але ж у агульнай прыхожай бруд і часта кроў, а ўнітаз і некалі новую душавую кабінку суседзі прывялі ў зусім незадавальнючы стан. Плюс – пастаянны пах спіртнога, цыгарэт і чужыя нецвярозыя людзі ў блоку.

– Сацыяльныя службы скажуць, што я як мама вінаватая, бо дазваляю жыць свайму дзіцяці ў такіх умовах, – дзеліцца перасцярогамі мая субяседніца.

### Наймаць кватэру не варыянт

Знаёмыя раяць наняць кватэру, каб не цярпець падобныя ўмовы, але Дыяна прызнаецца, што адна з дзіцем матэрыяльна не здолее. Да таго ж каб пераафоміць дагавор найму пакоя з былога мужа на сябе, пару год таму Дыяна заплаціла на карысць «Будаўніка-169» амаль тысячу рублёў. Усе квітанцыі яна захоўвае. Кажа, што прыйшлося пазычаць гэтыя грошы. Бацькі са Смаргоншчыны, канешне, дапамагаюць, але тады і ў іх не было магчымасці.

У 2011 годзе інтэрнат далі былому мужу Дыяны. Пакуль у пакоі яны жылі разам, шумныя суседзі пабойваліся, паводзілі сябе цішэй. Апошнія пару год муж ужо не жыве з сям'ёй, і ўмовы сталі немагчымыя.

### Ноччу ў блок уварваўся незнаёмы з нажом

– А ведаеце, ноччу да нас забег дзядзька з нажом, маму да сцяны адкінуў і пайшоў да суседзяў разбірацца з былой жонкай, – кажа шасцігадовая Мілана.

А мама тлумачыць сітуацыю. Неяк ноччу прачнулася з-за стука ў дзверы. Пайшла адчыняць. У прыхожую забег мужчына з нажом, адкінуў Дыяну і пабег да суседзяў разбірацца са сваё жонкай, якая гасцявала там. Мама непакоіцца, як гэта паўплывае на псіхіку дзіцяці.

Жанчына спрабавала і па добраму з суседзямі гаварыць, і сварыцца. Але нічога не дапамагае. Самой даводзіцца за імі мыць і кроў у прыхожай, і прыбіраць у прыбіральні.

– Спім мы толькі з тэлевізарам. Уключаем яго гучней, каб не чуць суседскай нецэнзуршчыны, – распавядае субяседніца.

Два-тры разы на месяц выклікае міліцыю. Дэбашыраў забіраюць на суткі. Потым адпускаюць, і ўсё пачынаецца па-новаму.

### Штомесяц – камуналка ў сто рублёў

Кожны месяц за пакой у інтэрнаце Дыяна плаціць 100 рублёў. Плюс 12-15 штомесячна – на капітальны рамонт. Неаднаразова хадзіла да каменданта, прасіла як-небудзь вырашыць сітуацыю, перасяліць іх з дачкой у іншы пакой. Але адказ такі: як зможам, перасялім. А вольных пакояў пакуль няма.

> – Ужо не хапае сіл. Ноччу, калі дзіця засне, я саджуся і пачынаю плакаць ад адчаю і безвыходнасці.

### Камендант: перасялім пры першай магчымасці

Камендант інтэрната **Ганна Асокіна** ў курсе праблемы Прывалінскіх.

– Так, ведаю, што іх сусед злоўжывае спіртным. Выселіць яго я не магу. Мужчына мае інваліднасць. Як толькі з'явіцца магчымасць, мы дадзім Дыяне Прывалінскай іншы пакой, – паабяцала камендант.

Але пакуль вольных пакояў няма.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**




Схема «Рэгіянальнай газеты».

Цэнтр часовага знаходжання людзей без пэўнага месца жыхарства з'явіцца акурат паміж сёмай гімназіяй і садком №27.

# Ля дзіцячых садкоў і гімназіі збіраюцца адкрыць начлежку. Бацькі абураюцца

**МАЛАДЗЕЧНА**

У рэдакцыю «Рэгіянальнай газеты» звярнуліся бацькі дзяцей, якія вучацца ў гімназіі №7 і наведваюць дзіцячыя садкі №27 і №12. Бацькоў абурае, што побач з гэтымі ўстановамі збіраюцца адчыняць цэнтр часовага знаходжання людзей без пэўнага месца жыхарства.

### Бацькі: Пасля Стоўбцаў абяцалі ўзмацніць бяспеку ў школе. Але...

Такое суседства бацькоў не задавальняе.

– Чаму пра адкрыццё такой установы каля гімназіі і садкоў не спыталі ў бацькоў? – абураецца адна з мам. – Пасля трагедыі ў Стоўбцах абяцалі, што меры бяспекі ў школах і садках узмацняюцца. А ў Маладзечне наадварот.

Бацькі хвалююцца: раніцай дзеці мусяць ісці ў школу ў цёмны час, а вечарам позна вяртаюцца з другой змены. А знаходжанне побач з дзецьмі людзей без пэўнага месца жыхарства, на іх думку, небяспечнае.

– Мы не супраць саміх людзей. Разумеем, што ім таксама трэба недзе жыць. Але няўжо лепшы варыянт – каля школы і садкоў? – не разумее мама.

### Праваабаронцы: людзі без месца жыхарства маюць аднолькавыя з намі правы

Пракаментаваць сітуацыю з прававога пункту гледжання мы папрасілі праваабаронцаў з цэнтра «Вясна». Тут на гэта адказалі, што нічые правы не парушаюцца. Гэтыя людзі маюць такія ж правы, як і ўсе.

### Цэнтр гігіены і эпідэміялогіі: парушэння ў размяшчэнні ўстановы няма

Даць ацэнку такому суседству з санітарнага пункту гледжання мы папрасілі і загадчыка аддзялення камунальнай гігіены аддзела гігіены Маладзечанскага занальнага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі **Міхаіла Міхалевіча**.

Паводле санітарных нормаў і правілаў «Патрабаванні для ўстаноў сацыяльнага абслугоўвання, якія здзяйсняюць стацыянарнае сацыяльнае абслугоўванне», парушэнняў у размяшчэнні цэнтра няма. Дакумент абавязвае размяшчаць падобныя ўстановы толькі ў жылых забудовах. Таму меркаванае месца цэнтра не парушае санітарныя нормы.

### Камітэт па працы і сацабароне: няўжо лепш, каб такія людзі прыйшлі ў наш пад'езд?

У бацькоў няма падстаў для панікі, лічыць старшыня камітэта па працы, занятасці і сацабароне Мінаблвыканкама **Алег Семянчук**.

– Будаваць нешта нове для цэнтра часовага знаходжання няма сэнсу. Таму Маладзечанскі райвыканкам задзейнічаў пусты будынак.

Старшыня лічыць, што не варта ізаляваць людзей ад грамадства з-за таго, што яны ў сілу нейкіх абставін апынуліся на вуліцы.

Па яго словах, у цэнтр часовага ўтрымання будуць пускаць толькі цвярозых людзей. Яны змогуць пераначаваць, памыцца, атрымаць медыцынскую і псіхалагічную дапамогу.

– Няўжо бацькам будзе лепш, калі чалавек без пэўнага месца жыхарства прыйдзе да іх у пад'езд ці ляжа спаць у пясочніцы, дзе гуляюць іх дзеці? Цяпер дзякуючы з'яўленню цэнтра такіх выпадкаў не будзе, – падсумаваў Алег Семянчук.

Дэпутат Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь **Людміла Кананові**ч абяцала вывучыць сітуацыю. Яна будзе гатова выслухаць усіх зацікаўленых на прыёме ў красавіку.

У Маладзечанскім РАУСе і тэрытарыяльным цэнтры абслугоўвання насельніцтва адказалі: «Без каментароў».

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Заканчваецца канчатковы тэрмін дэкларавання даходаў фізічных асоб за 2018 год

Інспекцыя МПЗ па Маладзечанскім раёне нагадвае, што канчатковы тэрмін падачы дэкларацыі (разліку) па падаходным падатку з фізічных асоб з даходаў, атрыманых у 2018 годзе, не пазней за 1 красавіка 2019 года.

У адпаведнасці з Падатковым кодэксам падатковую дэкларацыю (разлік) абавязаны падаць фізічныя асобы – падатковыя рэзідэнты РБ, якія атрымалі даходы, што падлягаюць падаткаабкладанню.

Больш падрабязная інфармацыя пра даходы, што падлягаюць дэклараванню, а таксама пра меры адміністрацыйнай адказнасці за парушэнне ўстаноўленага тэрміну падачы ў падатковы орган падатковай дэкларацыі (разліку) размешчаная на сайце mgazeta.by у раздзеле «Падаткаабкладанне».

**Інспекцыя па падатках і зборах па Маладзечанскім раёне.**

**ЛІЧБА НУМАРА**

**40 000**

СТОЛЬКІ БЕЛАРУСАЎ АТРЫМАЛІ ПРАЦОЎНЫЯ ВІЗЫ Ў ПОЛЬШЧУ Ў 2018 ГОДЗЕ

ПАВОДЛЕ ГЕНЕРАЛЬНАГА ДЫРЭКТАРАТА ПА МІГРАЦЫІ І ЎНУТРАНЫХ СПРАВАХ ЕЎРАКАМІСІІ.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 21.03 | 28.03 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.1057 | **2.1269** |
| Еўра | 2.3894 | **2.3951** |
| Злоты, 10 | 5.5759 | **5.5809** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.2756 | **3.2906** |
| Грыўня, 100 | 7.7467 | **7.8540** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **20.03** | **27.03** |
| Еўра | 2.3800/2.3970 | **2.3800/2.4000** |
| Долар ЗША | 2.0980/2.1150 | **2.1140/2.1340** |
| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
| ПРАДУКТЫ | **20.03** | **27.03** |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 18,99 | **18,99** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,40 | **3,40** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,21 | **7,21** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 10,00 | **10,00** |
| Карп жывы, 1 кг | 4,70 | **4,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | **14,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,20 | **1,20** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,85 | **1,85** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | **2,20** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,80 | **1,80** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 2,00 | **1,80** |
| Агуркі, 1 кг | 3,90 | **3,80** |
| Баклажан, 1 кг | 6,50 | **7,50** |
| Бульба, 1 кг | 0,60 | **0,60** |
| Буракі, 1 кг | 0,80 | **0,80** |
| Капуста, 1 кг | 2,50 | **2,50** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,50 | **2,50** |
| Морква, 1 кг | 0,99 | **0,99** |
| Памідоры, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Перац, 1 кг | 6,95 | **7,50** |
| Радыс, 1 кг | 2,50 | **7,90** |
| Салата, 100 г | 0,50 | **1,30** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,20 | **1,20** |
| Часнок, 1 кг | 4,90 | **4,90** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,30 | **3,30** |
| Бананы, 1 кг | 2,95 | **2,80** |
| Вінаград, 1 кг | 4,95 | **5,50** |
| Грушы, 1 кг | 2,95 | **2,95** |
| Ківі, 1 кг | 3,80 | **3,80** |
| Лімоны, 1 кг | 3,80 | **3,50** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,30 | **3,30** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,45 | **1,45** |
| Грэцкі арэх, ядро, 1 кг | 25,00 | **25,00** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,00 | **7,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## У Даўгінаве гарэў гараж з бульбай

ВІЛЕЙКА

Пра тое, што ў Даўгінаве ў адным з прыватных двароў па вуліцы Савецкай гарыць гараж, вілейскім выратавальнікам паведамілі 26 сакавіка каля 19:30.

Калі прыехала брыгада, гарэла гарышча гаража.

– Паколькі пажар гаспадары заўважылі адразу і пажарная брыгада была недалёка, гараж удалося хутка патушыць. Згарэла частка даху, – расказаў карэспандэнту інжынер інспекцыі нагляду і прафілактыкі Вілейскага РАНС **Аляксандр Казакевіч**.

Па яго словах, ніякага транспарту ў гаражы не было. Гаспадары захоўвалі там бульбу.

У гаражы стаяла печ. Комін са звычайнай металічнай трубы прыціскаўся да драўляных канструкцый гарышча. Ад гэтага і загарэлася.

Спецыялісты РАНС нагадваюць, што ніякія печкі ў гаражы выкарыстоўваць нельга. Комін жа павінны быць з глінянай цэглы.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## За суботу ў рэгіёне – шэсць пажараў

АШМЯНЫ
АСТРАВЕЦ
СМАРГОНЬ

Толькі за суботу ў рэгіёне – шэсць пажараў. Гарэлі будынкі на Смаргоншчыне, Астравеччыне і Ашмяншчыне.

23 сакавіка гарэла гаспабудова ў вёсцы Шчопаны на Смаргоншчыне. Паведамілі пра пажар на тэрыторыі прыватнага домаўладання ў 13:13. У выніку пашкоджаны дах, перакрыцце і маёмасць. Папярэдняя прычына пажару – неасцярожнае абыходжанне з агнём невядомага чалавека.

Гаспадарчая пабудова ў гэты дзень гарэла і ў вёсцы Міляйкова. Пра гэта паведамілі ў 13:23. Пабудова знішчаная цалкам, пацярпелых няма. Прычына – неасцярожнае абыходжанне з агнём пры курэнні сына гаспадыні.

Трэцяя гаспадарчая пабудова гарэла ў суботу ў вёсцы Шастакі. Пра пажар даведаліся ў 15:34. У выніку знішчаны дах, пашкоджанае перакрыцце. Мяркуюць, прычына – неасцярожнае абыходжанне з агнём пры спальванні смецця мужа гаспадыні .

На Астравеччыне гарэў жылы дом у вёсцы Кеждуны. Пра пажар паведамілі ў 15:13. Знішчаны дах, перакрыцце, пашкоджаныя сцены, маёмасць у доме. Прычына – неасцярожнае абыходжанне з агнём пры спальванні смецця гаспадара дома.

Таксама ў Астравецкім раёне гарэла гаспадарчая пабудова ў аграгарадку Палушы. Яна знішчаная цалкам. Пра пажар паведамілі ў 17:41. Прычынай можа быць неасцярожнае абыходжанне з агнём неўсталяванай асобы.

У Грыбаўшчыне Ашмянскага раёна гарэў гараж у прыватным домаўладанні. Пашкоджаны дах і перакрыцце на плошчы 24 квадратныя метры. Мяркуюць, прычына – неасцярожнае абыходжанне з агнём неўсталяванай асобы.

**Паводле сайта МНС.**

## Махляр падмануў 83-гадовага мужчыну

АСТРАВЕЦ

Здарэнне адбылося апоўдні 19 кастрычніка мінулага года ў адным з двароў вёскі Падольцы.

Абвінавачаны Ф. задумаў падмануць і абакрасці 83-гадовага гаспадара дома.

Сказаў, што нібыта папярэдне дамовіўся аб здзелцы з унукам гаспадара – купіць за 50 рублёў аўтамабіль «Опель-Аскона» 1988 года выпуску. Падманушы, Ф. забраў аўто, і гэтым нанёс гаспадару машыны шкоду на 250 рублёў.

Абвінавачаны віну прызнаў. Ён патлумачыў, што праязджаў каля дома, убачыў у двары сталага мужчыну. Спытаўся, ці ёсць які метал. Гаспадар сказаў, што ёсць аўто, але пра пакупку дамаўляцца трэба з унукам. На другі раз Ф. прыехаў і сказаў, што нібыта ўсё вырашыў з унукам.

Калі сваякі сталага мужчыны даведаліся пра здзелку, пачалі абурацца. І зразумелі, што іх падманулі.

Суд Астравецкага раёна прызнаў Ф. вінаватым у махлярстве і прызначыў пакаранне ў выглядзе грамадскіх работ на 150 гадзін.

**Анастасія ЮРКОЙЦЬ, старшы памочнік пракурора Астравецкага раёна.**

## На Смаргоншчыне «Кіа» насмерць збіла маладзечанца

У суботу вечарам «Кіа» збіла пешахода на аўтадарозе «Мінск-Ашмяны-мяжа Літоўскай Рэспублікі».

Жыхар Маладзечна прыехаў на дызель-цягніку да роднага брата. Пераходзіў праезную частку злева ад аўтамабіля. Святлоадбівальных элементаў не меў. Ён атрымаў раненні, ад якіх памёр на месцы.

Узбудзілі крымінальную справу.

**Паводле gaigrodno.by.**

# Валожынца падазраюць у забойстве суседа

ВАЛОЖЫН

**21 сакавіка жыхар Валожыншчыны прыйшоў дамоў і знайшоў там труп свайго 43-гадовага брата.**




Валожынец збіў суседа рукамі і нагамі, завёў дамоў і кінуў паміраць.

У злачынстве следчыя падазраюць 36-гадовага суседа забітага, расказала карэспандэнту афіцыйны прадстаўнік Следчага камітэта па Мінскай **вобласці Таццяна Беланог**.

Стала вядома, што ў той дзень пацярпелы быў у гасцях у падазраванага. Яны разам выпівалі. Пацярпелы прызнаўся суседу, што нядаўна скраў у яго 20 рублёў.

Мужчыны пачалі сварыцца. Падазраваны стаў біць 43-гадовага суседа рукамі і нагамі па жыццёва важных органах. Потым адвёў яго дамоў, пакінуў аднаго, дзе той і памёр.

Фігуранта падазраюць у нанясенні цяжкіх пашкоджанняў, якія прывялі да смерці чалавека па неасцярожнасці.

Мужчыну заключылі пад варту. Следчыя праводзяць праверку здарэння.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Як не стаць ахвярай інтэрнэт-махляроў

МАЛАДЗЕЧНА

**На Маладзечаншчыне і па ўсёй Беларусі пачасціліся выпадкі інтэрнэт-махлярства.**

Віды махлярства – розныя, пачынаючы ад дзіцячых розыгрышаў у сацсетках да фінансавых пірамід.

Найбольш папулярныя віды:

### 1. Просьбы пра дапамогу ад знаёмых і сяброў

Прыходзіць ліст ад асобы інтэрнэт-сябра з просьбай даць рэквізіты банкаўскай карты, бо іх карта заблакаваная. Зламыснікі карыстаюцца даверам блізкіх і сяброў чалавека. Пасля таго як пацярпелы перасылае дадзеныя звесткі, з яго карт-рахунка спісваюцца грошы. Пасля ўстанаўліваюць, што ў сацыяльнай сетцы ўзламалі старонку знаёмага.

Таму, калі хтосьці з інтэрнэт-сяброў просіць перавесці яму грошы ці даць рэквізіты банкаўскай карты, патэлефануеце яму і ўдакладніце, ці праўда гэта. Калі вы маеце зносіны рэдка, папрасіце даць нумар тэлефона. Магчыма, рахунак узламалі, і вам піша махляр.

### 2. Знаёмства з замежнікамі, ветэранамі баявых дзеянняў. Шлюбныя афёры

На сайтах знаёмстваў або ў сацыяльных сетках кожны можа прадставіць сябе тым, кім хоча быць. Як правіла, пацярпелыя – жанчыны ад 40 гадоў, якім у сацыяльнай сетцы або на адрас электроннай пошты прыходзіць паведамленне ад невядомага раней мужчыны.

**У сетцы ашуканцы распаўсюджваюць фальшывую анкету: прыгожыя здымкі, прыдуманыя інтарэсы, хобі.**

У лісце зламыснікі часта прадстаўляюцца вайскоўцамі, якія служылі ў краінах, дзе была або ідзе вайна. Жанчынам прапануюць пазнаёміцца, жыць разам.

Мужчына піша, што мае шмат грошай і каштоўнасцяў і хацеў бы пераслаць іх новай знаёмай, бо не можа вывезці з краіны. І просіць выслаць грошы, каб уладзіць усе фармальнасці з афармленнем дакументаў. Грошы перасылаюцца ў краіны далёкага замежжа з дапамогай міжнародных плацежных сістэм. Пасля адной сумы, просяць пра іншую і гэтак далей. І доўжыцца ўсё, пакуль пацярпелая не зразумее, што яе падманулі.

### 3. Фінансавыя піраміды

Па пошце ці проста ў браўзеры вам прапануюць укласці грошы ў каштоўныя паперы, каб у далейшым гуляць на біржы. Гарантуюць стабільны і высокі даход (да 150% ад укладзенай сумы ў месяц), магчымасць у любы час вярнуць свае грошы. Нават могуць даць доступ у асабісты кабінет, дзе вы будзеце бачыць, як паступаюць працэнты на ваш рахунак.

Праблемы з'явяцца пасля таго, як вы вырашыце зняць грошы. Тэхнічныя непаладкі, праблемы з серверам, унутраныя збоі – усё будзе замінаць. А потым вам проста перастануць адказваць на званкі і лісты.

**Як адрозніць фінансавую піраміду?**

Звярніце ўвагу на кантактныя дадзеныя офіса. Часцей за ўсё такія «Біржы» бяруць назвы рэальных і трохі іх перарабляюць. Калі на сайце няма дакладнага фізічнага адраса, прамога кантактнага тэлефона і нумара ліцэнзіі, то варта задумацца, ці існуе кампанія.

Сур'ёзныя фірмы імкнуцца быць даступнымі, таму размяшчаюць поўную інфармацыю пра сябе

### 4. Фішынг

Яго мэта – лагіны, паролі і іншая канфідэнцыйная інфармацыя, каб атрымаць доступ да грошай і акаўнтаў карыстальніка, а таксама падмануць знаёмых і сяброў асобы, чыю старонку ўзломваюць.

Ашуканцы дасылаюць ліст ад імя вядомай кампаніі з просьбай перайсці па спасылцы, памяняць пароль або ўвесці дадзеныя банкаўскай карты і код пацвярджэння.

Спасылка вядзе на фэйкавы сайт, які вонкава вельмі падобны на сапраўдны. Ахвяра ўводзіць дадзеныя, якія адразу трапляюць зламыснікам. Каб засцерагчы свой рахунак ад узлому, праверце пароль. Надзейны пароль складаецца з дзевяці знакаў і больш, змяшчае загалоўныя літары, лічбы і сімвалы. Гэтыя ж правілы ставяцца і да пошты.

### 5. Набыццё тавараў у інтэрнэт-крамах альбо ў фізічных асоб з папярэдняй аплатай

Ашуканцы выкарыстоўваюць сацыяльныя сеткі, а таксама ствараюць інтэрнэт-крамы. Складанасць устанаўлення інтэрнэт ашуканцаў у падобных выпадках звязаная з тым, што інтэрнэт-рэсурсы могуць быць зарэгістраваныя з дапамогай замежных сайтаў.

Калі вы думаеце, што сталі ахвярай махлярства ў сетцы, то неадкладна заблакуйце банкаўскія карты. Пасля гэтага неабходна паведаміць аб зламысніках, удакладнішы інфармацыю ў банку, калі гэта неабходна. Нават калі ніякіх падазроных дзеянняў яшчэ не здзейсніла, а вы выпадкова паведамілі нумар карты незнаёмцу, лепш перастрахавацца і захаваць свае грошы, заблакаваўшы карт-рахунак і ў наступным замяніўшы банкаўскую карту.

**Маладзечанскі раённы аддзел Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь.**


На мерапрыемстве стваралі незабыўныя вобразы для свята.


Падчас «Свету прыгажосці» наведнікі пабачылі незвычайныя вырабы і змаглі паўдзельнічаць у іх стварэнні.


Наведнікі рабілі сэлфі з арыгінальнымі персанажамі мерапрыемства.


Падчас конкурсу працавалі выставы кандытарскіх вырабаў і дэкаратыўных прылад.

# Як прайшоў адкрыты конкурс «Свет прыгажосці» ў Маладзечне

**22 сакавіка ў Палацы культуры правялі конкурс па цырульніцкім майстэрстве, дэкаратыўнай касметыцы і пазногцевым сэрвісе.**

МАЛАДЗЕЧНА

Гледачы пабачылі выставу сучаснага адзення і вясельных убораў, калекцыі дзіцячых суконак, паглядзелі выступленні дзіцячых калектываў, паслухалі мінскі кавер-гурт «Кантрабанда».

Падчас мерапрыемства таксама зладзілі выставу тавараў для вяселля і вясельных паслуг «Тэрыторыя вяселляў». Наведнікі ацанілі новыя тэндэнцыі ў сферы прыгажосці, даведаліся, дзе можна замовіць дэкор залы, кандытарскія вырабы, рэстараны, фотасэсіі і відэаздымку і будучага вяселля, і проста свята. Былі прадстаўленыя ювелірныя ўпрыгажэнні, паслугі спа-салонаў і нават турыстычных агенцтваў. Усё – для якаснага правядзення самага незабыўнага вяселля.

Гледачам прапанавалі майстар-класы па часовай татуіроўцы і розных відах масажу, разыгралі спа-паслугі і кандытарскія вырабы. Для ўдзелу ў некаторых з розыгрышаў трэба было проста прадставіцца і пакінуць свае дадзеныя.

По завяршэнні конкурсу адбылося ўрачыстае ўзнагароджанне пераможцаў.

Конкурс «Свет прыгажосці» – сумесны праект Маладзечанскага райвыканкама, Палаца культуры і Асацыяцыі цырульнікаў і касметолагаў Рэспублікі Беларусь.

**Таццяна КАСЬЯН.**
**Фота аўтара.**







● КАЛЯНДАР

30 САКАВІКА

**1739.** 280 гадоў назад у вёсцы Мосар Ашмянскага павета нарадзіўся **Павел Бжастоўскі** (Павел Ксаверы Берастоўскі), грамадскі і дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, мецэнат, публіцыст і перакладчык. У 1767 набыў маёнтак Мерач у Віленскім павеце (перайменаваў яго ў Паўлава) і пад уплывам ідэй філосафа-асветніка Жана Жака Русо, а таксама сацыялістаўутапістаў Томаса Мора, Анры Сен-Сімона ды іншых правёў радыкальныя сацыяльна-эканамічныя рэформы, увёў самакіраванне сялян. Па трэцім падзеле Рэчы Паспалітай (1795) прадаў Паўлава, жыў у Дрэздэне, Рыме. Па вяртанні на радзіму быў пробашчам у Рукойнях каля Вільні.

1 КРАСАВІКА

**1557.** У Вялікім Княстве Літоўскім прынята «Устава на валокі» – асноўны дакумент Вялікай аграрнай рэформы.

**1877.** Нарадзіўся **Васіль Захарка**, беларускі палітычны дзеяч, другі прэзідэнт Беларускай Народнай Рэспублікі. Ларыса Геніюш у сваіх успамінах пісала пра яго: «Гэта вельмі паважаны чалавек з думкамі пра Беларуса…».

**1940.** У саратаўскай турме памёр **Язэп Лёсік**, грамадска-палітычны дзеяч, мовазнавец, пісьменнік, педагог. У 1898–1899 гадах вучыўся ў Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі. У 1923–1925 выступіў з крытыкай граматыкі Тарашкевіча, прапаноўваў значныя змяненні ў беларускім алфавіце, правапісе, граматыцы, прызначаныя да іх спрашчэння, асноўваючыся на народнай беларускай традыцыі.

2 КРАСАВІКА

1995. Памёр **Пімен Панчанка**, народны паэт Беларусі. Пахаваны на Усходніх могілках у Мінску. Нарадзіўся 23 жніўня 1917 года ў Рэвелі, цяпер Талін, Эстонія, якая на той час уваходзіла ў склад Расійская імперыі, як і Беларусь. Бацькі, бедныя сяляне, у пошуках заробку выехалі ў Прыбалтыку.

4 КРАСАВІКА

**1863.** У баі загінуў **Юльян Бакшанскі**, удзельнік вызваленчага руху, камандзір паўстанцкага аддзела, публіцыст. Пахаваны ў в. Плябань, цяпер Маладзечанскі раён.

**1887.** Нарадзіўся **Фабіян Шантыр**, грамадска-палітычны дзеяч, публіцыст, пісьменнік, перакладчык. Людміла Рублеўская разам з гісторыкам Віталем Скалабанам напісала паэму «Людвіка і Фабіян», прысвечаную каханню Людвікі Сівіцкай (Зоські Верас) і Фабіяна Шантыра.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Як прадпрымальнік-энтузіяст адрадзіў млын у Жодзішках

СМАРГОНЬ

**Вадзяны млын пры дарозе ў архаічных Жодзішках жывы, дзейнічае.**

Нават зімой, замецены па пояс завірухамі, з абледзянелым вадзяным колам і ў снежнай шапцы на даху, млын выдыхае цёплы пар. Зусім як яго сваяк на карціне «Плябанскія млыны» галоўнага беларускага мастака-млынара **Віктара Нямцова**.



Францішак Жылка – гаспадар музея-млына.

## Жодзішкі – старажытны край майстроў

Сённяшняе начынне жодзішкаўскага вадзянога млына і адначасова музея мукамольнай справы – гэта не толькі агрэгаты і сельскагаспадарчыя прылады працы. Працэс памолу збожжа згенерыраваў за стагоддзі магутную энергію, якая дае сілы ўсім, чые сэрцы адкрытыя дабру і ўдзячнасці продкам

Жодзішкаўскі кут яшчэ ад часоў кальвіністаў ды езуітаў славіўся рамеснікамі, майстрамі. Вынаходлівасць розуму і дбайнасць рук спрыялі дабрабыту і росквіту гэтага мястэчка на стромкім беразе Віліі.

## Крыху з гісторыі паселішча

Упершыню Жодзішкі згадваюцца ў 1511 годзе. Тады вялікі князь Жыгімонт Стары дараваў ім прывілей на таргі, корчмы, кірмашы. У пазнейшых крыніцах чытаем, што з 1774 года Жодзішкі ўжо горад, якому кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі дараваў Магдэбургскае права.

Гэты край імкліва развіваўся ў 16 – першай палове 17 стагоддзя. Пасля аграрнай рэформы ў Вялікім Княстве Літоўскім, вядомай як «Валочная памера», фарміраваліся фальваркавыя гаспадаркі. Іх вытворчасць была арыентаваная на экспарт.

Асабліва вялікім попытам на заходнееўрапейскіх рынках карысталася збожжа. У тагачаснай Еўропе праз рост мануфактурнай скуранай вытворчасці скарачалася плошча пасяўных палёў.

Гэту нішу па вырошчванні збожжа запоўнілі землеўласнікі з ВКЛ. У сярэдзіне 16 стагоддзя ў Жодзішках пабудавалі першы вадзяны млын. Дзеля гэтага на рацэ Палавойцы спецыяльна выкапалі стаў для збору дастатковай колькасці вады.

## З мноства млыноў захаваўся адзін

Увогуле ў ваколіцах гэтага зручнага для гандлю і земляробства месца было шмат млыноў. Захаваўся да сёння толькі адзін. Яго пабудавалі езуіты на пачатку 17 стагоддзя.

Колішняя ўладальніца двара Жодзішкі **Барбара Мінкевіч** пасля заўчаснай смерці мужа падарыла частку сваіх уладанняў езуітам. Бо сябрам ордэна быў яе сын **Адам**.

Езуіты пакінулі пра сябе памяць асветніцтвам. Маўклівы сведка іх дзейнасці – езуіцкі калегіум, які захаваўся да нашага часу. Сёння тут месціцца медыцынская ўстанова.

## Як Жодзішкі захапілі Тышкевіча

Граф Канстанцін Тышкевіч, вядомы ў навуковым свеце кнігай-даследаваннем «Вілія і яе берагі», праплываючы ў 1857 годзе паўз Жодзішкі, захапляўся прыгажосцю берагоў. Як адзначыў аўтар манаграфіі, на ўсім шляху экспедыцыі больш нідзе не бачылі яе ўдзельнікі такога харства і прыгажосці, такой багатай флоры. Не чулі такіх меладычных і душэўных спеваў у разнастайных жанрах народнай вуснай творчасці. Граф Тышкевіч падрабязна апісаў будынкі кальвінскага збору і кляштара езуітаў, адзначыў архітэктурную сціпласць першага і багатую аздобленасць другога.

Але нідзе ў кнізе не згадваецца пра вадзяны млын. Магчыма, таму, што ён не быў нейкай асаблівасцю. На той час падобныя збудаванні існавалі ва ўсіх буйных навакольных вёсках Павілля.

## Заняпад і аднаўленне млына

На працягу стагоддзяў млын служыў людзям. Мяняліся гаспадары, а жорны працягвалі малоць збожжа. У занепад гэты гістарычны аб'ект прыйшоў, калі ўвогуле не стала гаспадара. Некалькі дзесяцігоддзяў не працавала турбіна, пакрываліся пылам і смеццем магутныя жорны, пазарастала хмызняком і пустазеллем наваколле.

Аглядаючы экспазіцыі цяперашняга музея, страшна сабе нават уявіць, што такой каштоўнасці магло б не быць на Смаргоншчыне, калі б не настойлівасць мясцовых краязнаўцаў і прыхільнікаў мінуўшчыны.

А пачалося ўсё ў 90-х мінулага стагоддзя. Ураджэнец гэтых мясцін прадпрымальнік **Францішак Жылка** ў гутарцы з мясцовымі жыхарамі пачуў, што іх хвалюе занядбаны млын.

Прыгадалася маленства, калі нейкі час жыў побач з млынам. Хлапечую цікаўнасць і дапытлівы дзіцячы розум прыцягвалі механізмы, хацелася дазнацца аб працэсе іх узаемадзеяння. Ці не тут зарадзілася любоў да механікі, да тэхнікі, што ў будучым вырашыла выбар прафесіі юнака.

Інжынер-механік па адукацыі і краязнаўца-падарожнік па прызванні Францішак Жылка пачаў ратаваць млын. За ўласныя грошы накрыў дах, набыў турбіну, устанавіў змайстраванае мясцовымі ўмельцамі вадзяное кола дыяметрам у чатыры метры.

І зноў запрацавалі жорны, мелючы зярняты. Пацягнуліся да млына коні і машыны са збожжам. Толькі новае эканамічнае становішча значна паменшыла колькасць кліентаў. Хаця і сёння прыватнікі і фермеры час ад часу карыстаюцца паслугамі гэтага старажытнага млына.

## Як млын стаў музеем

Гаспадар Францішак Жылка пакрысе ператварыў млын у сапраўдны помнік мясцовай гісторыі. На трох паверхах будынка ён стварыў выставы этнаграфічных знаходак, рарытэтаў з вясковых хат і колішніх фальваркаў.

Усё часцей наведваюцца аматары даўніны і звычайныя падарожнікі на гэты турыстычны аб'ект. Тут гісторык, краязнаўца, вандроўнік і бард **Алег Мізула** распавядае пра ўнікальнасць Жодзішак.

**Ёсць тут і добраўпарадкаваная пляцоўка з назіральнай вежай. З яе можна агледзець старажытны парк ля былога езуіцкага кляштара і берагі рэчкі Палавойкі.**

Дабрачынная дзейнасць Францішка Жылкі ў Жодзішках не абмяжавалася адным толькі млыном. У сваім родавым гняздзе, засценку Стаўбуцева, ён пабудаваў мураваную капліцу Святога Францішка, устанавіў мармуровую скульптуру Маці Божай. Разам з Алегам Мізулам аднавілі амаль разбураную капліцу пачатку XX стагоддзя на вясковых могілках.

**Ала КЛЕМЯНОК.**
**Фота аўтара.**



# тэлетыдзень

**1-7 красавіка**

Перадрук праграмы забаронены.
У праграме магчымыя змяненні.

**28 каналаў ад «Рэгіянальнай газеты»**

● ЗОРКА ТЭЛЕТЫДНЯ

# Арцём Курэнь і Ганна Семяняка



Фота з асабістага архіву герояў, tut.by.

**Існуе меркаванне, што творчыя людзі вельмі эмацыйныя і схільныя да неабдуманых учынкаў, а таму ім няпроста ўжывацца пад адным дахам. Як гэта – разам працаваць на тэатральнай сцэне і выхоўваць дзіця. Сёння нашы героі – артысты Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі (РТБД) Арцём Курэнь і Ганна Семяняка.**

Арцём нарадзіўся ў Мінску, вучыўся ў школе з архітэктурна-мастацкім ухілам.

**Спачатку хацеў стаць дызайнерам, але хутка зразумеў, што гэта не пад сілу. Падабаліся тэатр і літаратура.**

Да іх прышчапіла любоў класны кіраўнік, настаўніца рускай мовы і літаратуры. Вырашыў паспрабаваць.

Ганна нарадзілася ў Стоўбцах і заўсёды марыла стаць актрысай. Пастаянна ладзіла для суседзяў нейкія канцэрты, выступленні, а да 11 класа дакладна вызначылася, што хоча паступаць у акадэмію.

**Мама падтрымала: яна з дзяцінства вазіла яе ў Мінск на спектаклі. Тэатрам Аня зацікавілася дзякуючы маме.**

Ганна і Арцём скончылі Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў па спецыяльнасці «акцёр драматычнага тэатра і кіно» ў 2013 годзе. У верасні 2015 года яны ўвайшлі ў топ-20 самых прыгожых тэатральных акцёраў Беларусі па версіі TUT.by. Арцём, апроч іншага, выканаў галоўную ролю ў нашумелым фільме Андрэя Курэйчыка «ГараШ» – самай прыбытковай беларускай карціне за ўсю гісторыю нацыянальнага кінапракату.

Іх раман, як той казаў, пачаўся «са студэнцкай лавы». Яны паступілі на адзін курс, іх было 12 чалавек. У верасні прыйшлі вучыцца і зненавідзелі адзін аднаго. Напэўна, гэта была ахоўная рэакцыя, але яны ўвесь час біліся, Ганна была як жыраф у плямах ад сінякоў. Напэўна, проста не ведалі, як прызнацца адзін аднаму ў пачуццях.

**Аднагрупнікі замыкалі іх у аўдыторыі, каб яны знайшлі агульную мову, і да другога курса знайшлі.**

Але ў іх не было букетна-цукерачнага перыяду. Зразумелі, што трэба ўжо make love, not war (займацца каханнем, а не вайной).

У Ані бацька армянін. І ў іх па традыцыі нельга, каб дзяўчына жыла з хлопцам не распісаўшыся.

**Таму Арцём прыехаў летам у Стоўбцы, зрабіў прапанову, яны пайшлі ў ЗАГС і проста распісаліся. Удваіх, нікога не клікалі.**

Цяпер яны гадуюць сына Багдана.



## 8 канал

ВОСЬМОЙ

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 1 АПРЕЛЯ**

**7.00, 15.55, 19.00, 21.05, 0.55** «Погода».
**7.05, 16.05** «Мульт-парад».
**7.25, 16.00** «Юморинка».
**7.30** Х/ф **«АФЕРИСТЫ».**
**9.00** Д/с «Родовые проклятья».
**9.30, 19.05** Т/с **«КАНДИС РЕНУАР».**
**10.30** Х/ф **«МИР ЮРСКОГО ПЕРИОДА».**
**12.40, 20.00** Т/с **«СМЕРТЕЛЬНОЕ ОРУЖИЕ».**
**13.30** Х/ф **«ПРАВДИВАЯ ЛОЖЬ».**
**16.30** Д/ф «СТРАННОЕ ДЕЛО».
**17.15** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ».**
**19.50** «Аналитический прогноз с Валерием Полховским».
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** «Вечерний квартал-95».
**22.50** Х/ф **«ДЕНЬ ГОЛОСОВАНИЯ».**

**ВТОРНИК, 2 АПРЕЛЯ**

**7.00, 15.55, 18.25, 21.05, 0.55** «Погода».
**7.05, 16.20** «Мульт-парад».
**7.25, 16.05** «Юморинка».
**7.30** Х/ф **«СОБАЧЬЯ ЖИЗНЬ».**
**9.10** Д/с «Дорога в школу».
**9.40, 18.30** Т/с **«КАНДИС РЕНУАР».**
**10.30** «Мой любимый питомец».
**11.00, 19.25** «Вечерний квартал-95».
**12.45** Т/с **«СМЕРТЕЛЬНОЕ ОРУЖИЕ».**
**13.30** Х/ф **«ДЕНЬ ГОЛОСОВАНИЯ».**
**16.45** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«КООРДИНАТЫ «СКАЙФОЛЛ».**
**23.20** Х/ф **«ЛЕГКОЕ ПОВЕДЕНИЕ».**

**СРЕДА, 3 АПРЕЛЯ**

**7.00, 15.55, 19.00, 21.05, 0.45** «Погода».
**7.05** Мульт-сериал.
**7.25, 16.00** «Юморинка».
**7.30** Х/ф **«ЛЕГКОЕ ПОВЕДЕНИЕ».**
**9.05** Д/ф «ХРОНИЧЕСКАЯ УСТАЛОСТЬ».
**9.30, 19.05** Т/с **«КАНДИС РЕНУАР».**
**10.20** «Аналитический прогноз с Валерием Полховским».
**10.30** «Синьцзян».
**11.00** «Вечерний квартал-95».
**12.45** Д/с «Ген высоты».
**13.45** Х/ф **«КООРДИНАТЫ «СКАЙФОЛЛ».**
**16.05** «Мульт-парад».
**16.30** Д/ф «ВОЛЬФ МЕССИНГ. НЕИЗВЕСТНЫЕ ПРЕДСКАЗАНИЯ».
**17.15** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ».**
**20.00** Т/с **«СМЕРТЕЛЬНОЕ ОРУЖИЕ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ЦВЕТОК ПУСТЫНИ».**
**23.15** Х/ф **«ЧУДО НА ГУДЗОНЕ».**

**ЧЕТВЕРГ, 4 АПРЕЛЯ**

**7.00, 15.55, 19.00, 21.00, 0.40** «Погода».
**7.05** Мульт-сериал.
**7.25, 16.00** «Юморинка».
**7.30** Х/ф **«НОЧНОЙ РЕЙС».**
**9.00, 15.25** Д/с «Путешественник».
**9.30, 19.05** Т/с **«КАНДИС РЕНУАР».**
**10.30** «Рисуя Китай».
**11.00** Х/ф **«ЦВЕТОК ПУСТЫНИ».**
**13.00, 20.05** Т/с **«СМЕРТЕЛЬНОЕ ОРУЖИЕ».**
**13.45** Х/ф **«МУЖЧИНЫ В ГОРОДЕ».**
**16.05** «Мульт-парад».
**16.30** «Мой любимый питомец».
**17.00** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ».**
**18.40** «Аналитический прогноз с Валерием Полховским».
**18.50** «Фешн is my профешн».
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** Х/ф **«СЕКРЕТНЫЕ МАТЕРИАЛЫ».**
**23.05** Х/ф **«АФЕРИСТЫ».**

**ПЯТНИЦА, 5 АПРЕЛЯ**

**7.00, 15.55, 18.55, 21.05, 1.00** «Погода».
**7.05** Мульт-сериал.
**7.25, 16.00** «Юморинка».
**7.30** Х/ф **«ПЕЧАЛЬНАЯ ЛУНА».**
**9.05** «Путешествие по городам с историей» (Колката. Индия).
**9.30, 19.00** Т/с **«КАНДИС РЕНУАР».**
**10.30** Мультфильмы.
**10.50** Х/ф **«СЕКРЕТНЫЕ МАТЕРИАЛЫ».**
**12.45, 20.00** Т/с **«СМЕРТЕЛЬНОЕ ОРУЖИЕ».**
**13.35** Х/ф **«ТРАНСФОРМЕРЫ».**
**16.05** «Мульт-парад».
**16.30** Д/с «Путешествие по городам с историей».
**17.00** «Синьцзян».
**17.30** «Мой любимый питомец».
**18.10** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** «Вечерний квартал-95».
**22.50** «Герои комиксов на экране». » Возвращение домой».

**СУББОТА, 6 АПРЕЛЯ**

**7.00, 19.00, 21.15, 1.25** «Погода».
**7.05** Мультфильмы «Барашек Шон».
**7.15** Д/с «Неизвестная планета земля».
**8.05** Мультфильмы «Замбезия».
**9.30** «Утрямдия».
**9.35** Х/ф **«ВОЗВРАЩЕНИЕ ДОМОЙ».**
**11.50** Т/с **«БЕЗ СРОКА ДАВНОСТИ».**
**13.30** Х/ф **«МИСТЕРИУМ. НАЧАЛО».**
**15.15** «Отвечайка».
**15.20** «Смотрим всей семьей»: Мультфильм «Долина папоротников».
**16.40** Х/ф **«МЭВЕРИК».**
**18.45** «Друзья дедушки Марко».
**19.05** Х/ф **«АВТОСТОПОМ ПО ГАЛАКТИКЕ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** «Фешн is my профешн».
**21.20** Х/ф **«ДЖЕК РИЧЕР».**
**23.25** Х/ф **«НИКОГДА НЕ ВОЗВРАЩАЙСЯ».**

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 7 АПРЕЛЯ**

**7.00, 16.05, 19.15, 21.05, 1.20** «Погода».
**7.05** Мультфильмы «Барашек Шон».
**7.15** Д/с «Неизвестная планета».
**8.15** Мультфильмы.
**9.25** «Утрямдия».
**9.30** «Мой любимый питомец».
**10.00** «Синьцзян».
**10.30** «Вечерний квартал-95».
**12.15** Х/ф **«8 НОВЫХ СВИДАНИЙ».**
**13.45** Х/ф **«ЛЮДИ Х».**
**16.10** «Смотрим всей семьей»: «Провалы времени».
**18.10** «Отвечайка».
**18.15** «Друзья дедушки Марко».
**18.30** Т/с **«КАСЛ».**
**19.20** Х/ф **«ПОЛНОЧНОЕ СОЛНЦЕ. МОТЫЛЕК».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ВДОВЫ».**
**23.20** Х/ф **«ИЛЛЮЗИЯ».**

## МКТВ

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 1 АПРЕЛЯ**

**6.30** Х/ф **«ИМЯ».**
**7.45, 13.40, 22.20** Мажорный лад.
**10.00** Х/ф **«ПЯТЫЙ ЭЛЕМЕНТ».**
**12.05** Х/ф **«КАК УКРАСТЬ БРИЛЛИАНТ».**
**15.00** Х/ф **«ИНСТРУКЦИИ НЕ ПРИЛАГАЮТСЯ».**
**17.05** Театральная гостиная: «Королева красоты» в постановке А.Барткевича.
**18.00** Новости БЖД.
**18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**19.15** Всё обо всём.
**19.20** Телеочерк: Золотой фонд края.
**20.15** В объективе: творчество Геннадия Парыкина.

**ВТОРНИК, 2 АПРЕЛЯ**

**6.30, 7.15** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 8.15, 18.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**8.25** Театральная гостиная: «Королева красоты» в постановке А.Барткевича.
**11.00, 17.05, 22.20** Мажорный лад.
**12.00** Х/ф **«ЧЁРНАЯ МОЛНИЯ».**
**13.45** Х/ф **«ШАНХАЙСКИЕ РЫЦАРИ».**
**15.40** Х/ф **«ПОДАРОК С ХАРАКТЕРОМ».**
**19.15** Все обо всём.
**20.15** Театральная гостиная: «Ромео и Джульетта» в постановке А.Барткевича.

**СРЕДА, 3 АПРЕЛЯ**

**6.30, 8.35** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 18.00, 18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.15, 20.15** Мая Радзіма.
**7.45** Всё обо всём.
**7.50** Таланты края.
**8.15** Телеочерк: Золотой фонд края.
**10.00** Х/ф **«ИГРУШКА».**
**11.40** Х/ф **«ШПИОН ПО СОСЕДСТВУ».**
**13.15** Х/ф **«КРЫСИНЫЕ БЕГА».**
**15.10, 19.15, 22.20** Мажорный лад.
**18.10** В объективе: Новый сезон Геннадия Парыкина.
**20.30** Музыкальная открытка.

**ЧЕТВЕРГ, 4 АПРЕЛЯ**

**6.30, 7.15, 8.15** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 18.50, 19.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**10.00** Театральная гостиная: «Ромео и Джульетта» в постановке А.Барткевича.
**13.00** Х/ф **«ЁЛКИ 5».**
**14.25** Х/ф **«ЁЛКИ НОВЫЕ».**
**16.50, 22.20** Мажорный лад.
**18.40** Всё обо всём.
**19.15** Свет души.
**20.20** Х/ф **«СОКРОВИЩА О.К.».**

**ПЯТНИЦА, 5 АПРЕЛЯ**

**6.30, 7.20, 8.20** Песня на завтрак.
**6.50, 18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00** Новости: время местное.
**10.00** Х/ф **«ДЖУНГЛИ».**
**13.20** Х/ф **«ЛЕГОК НА ПОМИНЕ».**
**14.40** Х/ф **«ИГРУШКА».**
**16.20** Театральная гостиная: «Вишневый сад» в постановке А.Барткевича.
**19.00, 20.00, 22.00** Время местное. Итоги.
**19.30** Всё обо всём.
**19.35** Мая Радзіма.
**20.30** Музыкальная открытка.
**22.30** Мажорный лад.

**СУББОТА, 6 АПРЕЛЯ**

**6.30, 7.40, 8.40** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 8.30, 18.50, 19.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Время местное. Итоги.
**7.30, 19.30** Таланты края.
**7.35, 19.35** Всё обо всём.
**9.40** Х/ф **«МОШЕННИКИ».**
**12.00** Х/ф **«УРОКИ ВЫЖИВАНИЯ».**
**14.40** Х/ф **«СОКРОВИЩА О.К.».**
**16.15, 21.10** Новости БЖД.
**16.25, 22.30** Мажорный лад.
**18.30** В объективе: Новый сезон Геннадия Парыкина.
**19.40** Мая Радзіма.
**20.30** Желаем вам.

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 7 АПРЕЛЯ**

**6.30** Мажорный лад.
**9.00** Х/ф **«СУПЕРНЯНЬ».**
**10.40** Х/ф **«ИМЯ».**
**13.00** Х/ф **«ЁЛКИ 5».**
**14.25** Х/ф **«ЁЛКИ НОВЫЕ».**
**16.00** Х/ф **«КУХНЯ. ПОСЛЕДНЯЯ БИТВА».**
**18.00** Х/ф **«КУХНЯ В ПАРИЖЕ».**
**19.50** Х/ф **«ПЯТЫЙ ЭЛЕМЕНТ».**
**21.50** Х/ф **«ПОВЕЛИТЕЛИ СНОВ».**

# Сусвет кахання

## Рэцэнзія на зборнік вершаў Уладзіміра Цануніна «Зачараваная чаромха»

ВІЛЕЙКА

**Сусвет кахання. Так можна сказаць пра новы зборнік вершаў Уладзіміра Цануніна «Зачараваная чаромха».**


Фота з архіва «РГ».

Уладзімір Цанунін.

### А хто такі Цанунін?

Гэта вядомы на Вілейшчыне сучасны пісьменнік, які не толькі вершы, але і музыку пачаў пісаць з пачатковай школы. Ён – член Саюза пісьменнікаў Беларусі і Саюза музычных майстроў Беларусі, актыўны ўдзельнік Мінскага абласнога народнага клуба паэтаў і кампазітараў «Жывіца». Мне здаецца, што роўных яму сярод сучасных паэтаў Вілейшчыны пакуль што няма.

Нарадзіўся Уладзімір Яфімавіч у 1954 годзе ў вёсцы Батвінаўка Крычаўскага раёна. У 1975 годзе скончыў гістарычны факультэт Магілёўскага педінстытута. Сорак гадоў выкладаў гісторыю ў розных школах Беларусі. У Вілейскі раён Цанунін закінуў горкі лёс Чарнобыля. Цяпер ён гэту зямлю лічыць сваёй другой малой радзімай. Нездарма адзін з раздзелаў зборніка паэзіі «Кліча бацькава хата» так і называецца «Любая Вілейшчына мая».

### Паэтычная аўтабіяграфія

Кніжка «Зачараваная чаромха» прысвечаная жонцы, **Святлане**.

**Амаль усе вершы зборніка раскрываюць глыбокі сэнс кахання. Можна яго нават назваць паэтычнай аўтабіяграфіяй.**

Прыцягвае ўвагу першы ж верш, пададзены сціплым гумарам, – «Печ». Хаваючыся пасля паездкі ў халодным аўтобусе ад «пана Мароза», парачка маладых людзей заскочыла ў хаце на печ:

*Цёплай печы*
*вузкі ложак*
*Лёсам стаў нам*
*на вякі.*
*Каб не печ,*
*дык можа*
*Разышліся б у бакі.*

А так не разышліся. Сведчаннем таму верш «Руб дваццаць», таксама гумарыстычны:

*Сакратар сельсавета*
*Кхвораньki*
*Распісаў нас*
*з апошніх сіл,*
*І за шлюбныя нашы*
*«корачкі»*
*Грошы нейкія*
*папрасіў.*
*Быў разгублены вельмі*
*і бледны я,*
*Бо пустою была*
*кішэнь*
*За руб дваццаць*
*грашыма меднымі*
*Ты купіла мяне*
*ў той дзень.*

З цікавасцю чытаецца чарговы верш, звязаны з біяграфіяй Уладзіміра Цануніна.

*Ты прашаптала*
*ў ранішнім спакоі,*
*Калі вакол драмала*
*ўсё сяло,*
*На вуха мне: «Нас*
*будзе хутка трое…»*
*І мне ад шчасця*
*мову заняло.*
(«Сакрэт».)

Амаль што следам ідзе верш «Мая дачушка»:

*Дачушку сваю*
*маленькую*
*Дадому я нёс тады.*
*У скронях званочкі*
*дзенькалі*
*Ад радасці*
*і хады.*

### Калі нельга адарвацца ад вершаў

Далей-болей. Ужо ніяк нельга адарвацца ад зборніка вершаў Цануніна. Яны зачароўваюць, яны прыцягваюць тваю ўвагу глыбокім сваім зместам. У вершы «Трыццатая вясна» чытаем:

*Нам лёс ад працы*
*мазалі*
*Навечна на руках*
*пакінуў,*
*Але шчасліва мы*
*жылі*
*Без здрады,*
*зайздрасці і кпінаў.*

*Цяпер унучак*
*звонкі смех*
*Званочкам будзіць нас*
*уранні*
*І не спыняе скроняў*
*снег*
*Надзей*
*на моцнае каханне.*

І сапраўды, прызнаецца паэт, «не крыўдна за пражытыя гады, бо ўнучка-гімназістка ў сёмым класе» («Ляцяць гады»).

Жыва апісвае Цанунін прыроду, якая нас акаляе: «месяц да бяроз прытуліўся дыскам» і «коўдра снегу была навокал» («Спатканне»); «месяц, нібы здзіўленае вока, паміж хмар падглядваў з вышыні» і «пазіралі зоркі праз бярозы з таямнічай зайздрасцю на нас» («Рамантычны вечар»).

Або:

*Зара ружовай хваляй*
*узнялася,*
*Смалой бурштынавай*
*пырснула на хвоі,*
*Прабегла*
*па люстэрку срэбным*
*Басі*
*І ў лузе задрамала*
*над ракою.*
(«Зара над Басяй»).

Гэта толькі назіральны чалавек можа заўважыць, як «бліскучы ліст старой вярбы люстэркам ззяе ў промнях сонца» («Спякота»).

Звярнуў паэт увагу і на дзве таполі на абрыве ракі: «Мы з табой як дзве таполі па-над плынню людской ракі». І ў другі раз, убачыўшы цераз акно цягніка такія ж таполі на абрыве ракі, аўтар піша: «Здалося – гэта мы з табой схілілі галовы над кручай».

А як моцна і рэальна апісвае паэт адзіноту! Хоць сабе і часовую – жонка ў бальніцы:

*Не чуваць на кухні*
*звону шклянак.*
*Нават кветкі*
*сохнуць у журбе.*
*У самоце сустракаю*
*ранак,*
*Бо на ложку*
*пуста без цябе.*
(«Сумнае».)

### Радкі пра жывую прыроду

Каханне – каханнем. А жывая прырода ў Цануніна ніколі без увагі не застаецца. У адным з вершаў, што трапіў у 2015 годзе ў зборнік «Пушчанскія галасы», расказваецца, як параненая паляўнічымі ваўчыца пад вываратам чорным хавае сваё дзіцянё, каб яго ніхто не змог знайсці. І выснова: «Нам у яе няшкодна павучыцца адказнасці за лёс сваіх дзяцей».

Такая ж выснова робіцца і ў вершы «Ласяня», надрукаваным у апошнім зборніку, – ласіха ад драпежнікаў абараняе сваё дзіця:

*Думаю, што людзям*
*не пашкодзіць*
*Хвалявацца гэтак*
*за дзяцей.*

Так робіцца ў дзікай жывой прыродзе.

**А што мы назіраем сярод людзей? Развялося столькі «маці-зязюль», што не пералічыць. Кідаюць немаўлятак на волю лёсу, а то і забіваюць.**

У паэта Уладзіміра Цануніна шмат чаму можна павучыцца – як жыццю, асабліва ў каханні, а таксама і майстэрству вершаскладання. Я маю на ўвазе тых, хто выпрацоўвае сваё майстэрства ў паэзіі. І рытм, і рыфма – усё захоўваецца. Прачытайце ўважліва ўвесь зборнік «Зачараваная чаромха», і вы не знойдзеце ніводнай дзеяслоўнай рыфмы, якую Цанунін лічыць ворагам сапраўднай паэзіі.

**Барыс МАНЦЭВІЧ,**
**член Саюза журналістаў ад 1958 года.**

Уладзімір Цанунін нарадзіўся 1 ліпеня 1954 года ў вёсцы Батвінаўка Крычаўскага раёна Магілёўскай вобласці ў сям'і настаўнікаў. У 1971–1975 гадах вучыўся на гістарычным факультэце Магілёўскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута. У 1975–1976 гадах працаваў настаўнікам гісторыі ў Святавольскай сярэдняй школе Івацэвіцкага раён, Сушчаўскай сярэдняй школе, а затым да 1981 года – у Чавускай школе-інтэрнаце. У 1981-м вярнуўся на бацькаўшчыну, у Крычаўскі раён, дзе спачатку працаваў у СПТВ-38 Крычава, а затым у роднай Батвінаўскай школе. У 1990 годзе як чарнобылец быў пераселены ў Пружанскі раён у вёску Папялёва, дзе стаў настаўнікам мясцовай школы. Летам 1995-га быў прыняты на работу ў Беларуска-германскае дабрачыннае прадпрыемства «Надзея-ХХІ стагоддзе» настаўнікам гісторыі. Цяпер працуе акампаніятарам народнага калектыву аўтарскай песні «Элегія» ў Вілейцы. У 1967 годзе ў ліпеньскім нумары часопіса «Бярозка» быў надрукаваны першы верш-песня «Песня пра Крычаў». Член Саюза пісьменнікаў Беларусі (ад 2014 г.) і Беларускага саюза музычных дзеячаў (ад 2009 г.). Узнагароджаны медалём «За вялікі ўклад у літаратуру» (2016). Неаднаразовы герой публікацый «Рэгіянальнай газеты».

# Міма мэты: чаму ўладам нявыгадна лавіць «дармаедаў»

**Чаму другі варыянт «дармаедскага» дэкрэта, як і першы, неэфектыўны, разбіраемся разам з экспертамі.**

Дэкрэт №3 аб папярэджанні сацыяльнага ўтрымanства прывёў толькі да аднаго выніку – аб'яднаў жыхароў вялікіх і маленькіх гарадоў, якія выйшлі ў 2017 годзе на вулічныя пратэсты. Яшчэ ён паказаў, што грамадзяне не рвуцца выконваць любы капрыз улады, бо сотні тысяч з тых, хто атрымаў ліст «шчасця», проста праігнаравалі патрабаванне ўрада і Лукашэнкі плаціць у казну падатак на «дармаедства».

Улада не стала прызнаваць, што дэкрэт неэфектыўны. Яна зрабіла людзям ласку, аптымізаваўшы яго і ператварыўшы ў дэкрэт №1 аб садзейнічанні занятасці.



На кірмашы-вакансій у Вілейцы.

Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

**Цяпер з незанятых, на думку чыноўнікаў, у эканоміцы будуць браць поўны кошт некаторых камунальных паслуг, а адмыслова створаныя камісіі – прапаноўваць ім працу.**

– Калісьці ў савецкай Канстытуцыі было напісана, што кожны савецкі чалавек абавязаны працаваць. У сучаснай беларускай Канстытуцыі і ў падпісаных краінай міжнародных пагадненнях прадугледжваецца менавіта права на працу. А прымусовую працу забараняюць, за выключэннем працы па прыгавору суда, – тлумачыць юрыст **Сяргей Балыкін**.

Базы незанятых у эканоміцы складаліся без згоды саміх грамадзян, без пастановы судоў або санкцый пракурораў. У іх – шмат асабістай інфармацыі пра жыхароў краіны. Гэта супярэчыць заканадаўству аб персанальных дадзеных.

З'яўленне падобнага дэкрэта – псіхалагічная і гістарычная праблема для краіны, адзначае кіраўнік праекта «Кошт урада» **Уладзімір Кавалкін**.

– Гэты праект не павінны быў нарадзіцца. Але ён з'явіўся дзякуючы гістарычнай памяці, у тым ліку савецкай. Гэта ў часы андропаўшчыны і позняга Савецкага Саюза людзей спрабавалі прымушаць працаваць падобнымі мерамі. Мы ведаем, чым тады ўсё скончылася, – кажа эканаміст.

### Ці плацяць падаткі «дармаеды»?

Калі ўлады кажуць, што «дармаеды» не плацяць падаткі, яны скажаюць рэальнасць. Плацяць усе, як мінімум, ускосныя падаткі. Любая камерцыйная структура плаціць дзяржаве 20%, калі не мае льгот, ад кожнага прададзенага тавару ці паслугі і ўключае гэты падатак спажыўцам у цану.

Гэта значыць, купляючы прадукт у кампаніі, якая плаціць падаткі ў Беларусі, чалавек ускосна плаціць у бюджэт. Падатак на дададзеную вартасць – прыкладна траціна ўсіх падатковых паступленняў. Па дадзеных праекта «Кошт урада», летась кожны грамадзянін уносіў у бюджэт больш за сто рублёў на месяц у выглядзе ўскосных падаткаў.

Затраты на працу «дармаедскіх» камісій у шмат разоў перавышаюць эканамічны эфект ад усіх мер па выяўленні незанятых у эканоміцы, спроб іх працаўладкаваць, а таксама ад грашовых паступленняў за аплату жыллёва-камунальных паслуг.

– Гэты палітычны праект, не пралічаны ні з эканамічнага, ні з сацыяльнага боку, будзе абсалютна стратным, – прагназуе Уладзімір Кавалкін.

### Супраць логікі «сацыяльнай дзяржавы»

Да гэтага часу не вельмі зразумела, на каго менавіта накіраваны дэкрэт. Калі ўлады ўпэўненыя, што ўзровень шэрай эканомікі ў краіне настолькі вялікі, то варта было б прымаць меры, якія стымулявалі б людзей выходзіць з цені. Больш эфектыўнымі былі б падатковыя льготы, якія сталі б дапамогай для прадпрымальнікаў. А падатак на «дармаедства» або павышаныя тарыфы за камунальныя паслугі – не тая мера, якая прымусіць людзей легалізаваць сваю дзейнасць, перакананая навуковы супрацоўнік Беларускага эканамічнага даследча-адукацыйнага цэнтра (BEROC) **Марыя Акулава**.

Кожны месяц за камунальныя паслугі так званыя дармаеды будуць плаціць прыкладна на дзвесце-трыста рублёў больш, чым усе. Тым, хто працуе нелегальна, якраз будзе прасцей заплаціць крыху больш за камуналку, бо ў іх, у адрозненне ад беспрацоўных, ёсць на гэта грошы.

Пакуль жа асноўны ўдар прыйшоўся на тых людзей, якія з-за адсутнасці занятасці апынуліся альбо практычна на мяжы беднасці, альбо за яе рысай. Многія з іх хацелі б знайсці працу, але не могуць. Нярэдка жыхар райцэнтра ці сельскай мясцовасці не можа знайсці працу з-за закрыцця адзінага горадаўтваральнага прадпрыемства, мізэрных заробкаў і проста адсутнасці патрэбных вакансій.

– Праблема тут, хутчэй, у тым, што дзяржава не стварае магчымасці працаўладкавацца. Бо калі кваліфікацыя работнікаў не адпавядае той, што патрабуе рынак працы, трэба дапамагаць гэтым людзям перавучвацца, а не ўскладаць на іх дадатковы падатак у выглядзе поўнай аплаты камунальных паслуг, – тлумачыць Марыя Акулава.

Што да людзей з алкагольнай або іншай залежнасцю, якія не маюць ні кваліфікацыі, ні дастатковай для працы дысцыпліны, то часцей за ўсё працадаўцу такія працаўнікі не трэба, дапаўняе Сяргей Балыкін. Браць з іх дадатковыя зборы – гэта практычна падштурхоўваць да крыміналу.

**Тыя ж, хто можа і хоча працаваць, і без стымулаў з боку дзяржавы шукаюць і знаходзяць працу.**

Нехта ў сваім горадзе, нехта – у сталіцы, а хтосьці з'язджае на заробкі ў Расію ці Польшчу, адзначаюць эксперты.

– Мы не можам казаць, што людзі не хочуць працаваць, а сядзяць і чакаюць, што ўрад прынясе ім грошы. Людзі актыўна шукаюць працу, проста не могуць знайсці яе ў краіне, – кажа Уладзімір Кавалкін.

Калі б улады надалі больш увагі таму, як дапамагчы народу перажыць перыяд трансфармацый у эканоміцы, то людзі без якога-небудзь на іх ціску самі вырашылі б пытанне з занятасцю, лічаць эксперты.

– Многія доўгі час займаліся адной справай, якая ўжо неактуальная. Каб уладкавацца на працу, гэтым людзям трэба будзе асвоіць новыя навыкі. Дзяржава магла б не патрабаваць з іх дадатковага ўкладу ў эканоміку сёння, а падтрымаць так, каб яны змаглі пачаць працаваць і падтрымаць эканоміку заўтра, – падкрэслівае Марыя Акулава.

Такі падыход паспрыяў бы таму, што людзі, якім не ўдаецца рэалізаваць сябе па сваёй спецыяльнасці, змаглі б набыць дадатковую прафесію і павысіць свае шанцы на рынку працы.

Для глабальнага змянення сітуацыі ўраду варта было б заняцца стварэннем такіх умоў у эканоміцы, пры якіх з'явяцца новыя працоўныя месцы, арганізаваць такі бізнес-клімат, пры якім у краіну пойдуць інвестыцыі, перакананы Уладзімір Кавалкін. Гэта значыць, працаваць над структурнымі рэформамі, перакваліфікацыяй работнікаў і адэкватнымі дапаможнікамі па беспрацоўі.

**Наталля КАЛЕСНІЧЭНКА.**

# Не хачу вяртацца ў беспрацоўе і безграшоўе

## Як жыве і працуе віляйчанка, што трапіла ў базу незанятых у эканоміцы

ВІЛЕЙКА

**За пражыванне ў інтэрнаце яго жыхары плацяць немалыя грошы. Сям'я з трох чалавек – у межах 100 рублёў, з чатырох – 140. Але для некаторых у сакавіцкіх жыроўках гэтыя сумы павялічыліся.**

### У Піцеры хапае і на жыллё, і на дапамогу сыну

Юлія жыве ў адным з вілейскіх інтэрнатаў з мужам і сынам. Спачатку мела адзін пакой, пасля далі блок. Тут сям'я зрабіла добры рамонт. Жанчына працавала ў адным з будаўнічых прадпрыемстваў горада. Калі ж яно развалілася, засталася без працы.

**– Наша Вілейка – невялікая. Знайсці працу тут немагчыма, – дзеліцца жанчына. – Тое, што прапаноўвалі, не задавальняла з-за малых заробкаў. Вырашылі з мужам паехаць зарабіць у Расію.**

Цяпер сям'я жыве і працуе ў Санкт-Пецярбургу некалькі год. Юля з мужам робяць рамонты праз пасрэдніцтва адной фірмы. Грошай хапае, каб наймаць у Санкт-Пецярбургу жыллё, нешта набыць для сябе і дапамагчы даросламу сыну-навучэнцу, які застаўся ў Вілейцы.

### Атрымала «дармаедскую» жыроўку

Атрыманая ў сакавіку жыроўка непрыемна здзівіла жанчыну. За гарачую ваду налічылі на дзесяць рублёў больш, чым звычайна. Па просьбе Юліі блізкія ў Вілейцы пачалі разбірацца, чаму так здарылася. Атрымалі адказ: жанчына трапіла ў базу незанятых у эканоміцы.

– А чаму я тады ніякага ліста не атрымала? – не разумее Юлія.



За гарачую ваду залічаная ў базу незанятых у эканоміцы віляйчанка заплаціць на дзесяць рублёў больш.

### У жыроўках за студзень-люты зрабілі пераразлік

Мы звярнуліся ў Вілейскую камісію па садзейнічанні працаўладкавання. Тут сітуацыю патлумачылі так:

– У студзені і лютым незанятыя ў эканоміцы атрымоўвалі жыроўкі са звычайнымі цэнамі. Але ў жыроўках было пазначана: «Вы трапілі ў базу незанятых у эканоміцы. Калі не пацвердзіце сваю занятасць, будзеце плаціць за гарачую ваду па павышанай цане».

Некаторыя вілейчукі за вызначаны час сваю занятасць пацвердзілі. Хто гэтага не зрабіў, трапіў у спісы, якія накіравалі ў ЖКГ. І там аплату за гарачую ваду налічвалі ўжо па павышанай цане. Зрабілі пераразлік за люты і за студзень.

### Хто ж вінаваты, што ў Вілейцы няма добрых заробкаў?

Цяпер Юліі за блок у інтэрнаце трэба заплаціць каля 110 рублёў. Грошы, на думку, жанчыны, не малыя. Да таго ж такую суму яна плаціць за жыллё, уласнікам якога не з'яўляецца. Як іншыя жыхары інтэрната, яна – наймальнік.

### Якую працу прапануюць сёння ў рэгіёне

На сайтах вакансій ёсць свежыя прапановы для жыхароў рэгіёна. У Маладзечне патрэбны кіроўцы пагрузчыка. Заробак 650-700 рублёў. Прарабу, што прыйдзе ў будаўнічую арганізацыю, прапануюць 1500. Столькі ж – замершчыку пластыкавых вокнаў. Афіцыянтам прапануюць ад 350 да 450. Прадаўцам – ад 400 да 600. Столькі ж, колькі іх калегам у Вілейцы і Астраўцы.

Па Вілейцы свежых вакансій менш. Аўтаслесар-механік – з заробкам ад 700 рублёў, кантралёр-касір – за 550. У вілейскія аптэкі патрэбны правізары. Заробак – 800 рублёў. Ветэрынарнаму доктару, які прыйдзе ў райветстанцыю, прапануюць менш напалову. У гімназію №2 на паўстаўкі патрэбны кладаўшчык. Заробак – 165 рублёў. Ад чатырохсот прапаноўваюць прадаўцам.

У Астраўцы шмат вакансій прапаноўвае мясцовае ДРБУ. Тут патрэбныя і майстар, і дыспетчар, і кладаўшчык, і інжынер-энергетык, і кіроўца, і машыніст. Для ўсіх гэтых работнікаў заробак аднолькавы – 330 рублёў...

**– І хто ж вінаваты, што ні ў Вілейцы, ні ў бліжэйшых райцэнтрах няма добрых заробкаў? – задае рытарычнае пытанне Юлія.**

І дадае, што часам дамоў хочацца, але куды вяртацца? У беспрацоўе і безграшоўе?

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

## На Беларускай АЭС усталявалі транспартны шлюз

АСТРАВЕЦ

На другім энергаблоку Беларускай АЭС у праектнае становішча ўсталявалі транспартны шлюз вагой больш за 230 тон.

– Усталёўка шлюза дазваляе прыступіць да наступнага этапу ўладкавання гермаабалонкі будынка рэактара энергаблока, – адзначыў віцэ-прэзідэнт-дырэктар праекта па ўзвядзенні Беларускай АЭС **Віталь Палянін**, кажучы пра значнасць падзеі. – У бліжэйшыя дні спецыялісты пачнуць нацяжэнне сістэмы перад-напружання ахоўнай абалонкі, якая складаецца з адмысловых металічных тросаў, якія шматкроць узмацняюць трываласць унутранай ахоўнай абалонкі.

Транспартны шлюз уяўляе сабой 14-метровую цыліндрычную камеру дыяметрам больш за дзевяць метраў, якая герметычна зачыняецца з двух бакоў. Вароты шлюза адкрываюцца па чарзе, забяспечваючы герметычнасць рэактарнага аддзялення.

У перыяд эксплуатацыі энергаблока транспартны шлюз з'яўляецца элементам герметычнай агароджы і прызначаны для транспартавання кантэйнераў з адпрацаваным ядзерным палівам, чахлоў са свежым палівам, транспартна-тэхналагічнага абсталявання, неабходнага для эксплуатацыі і абслугоўвання рэактарнай устаноўкі энергаблока.

**Паводле Астравецкага райвыканкама.**

## У лясы рэгіёна заселяць аленяў

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА

Алені сёлета з'явяцца ў лясах некаторых раёнаў Беларусі, у тым ліку на Маладзечаншчыне і Вілейшчыне. Пра гэта карэспандэнту sb.by на адкрыцці выставы «Паляванне і рыбалоўства» распавёў намеснік старшыні праўлення Беларускага таварыства паляўнічых і рыбаловаў **Анатоль Малажаўскі**.

– У гаспадаркі засяляць тых аленяў, якіх закупілі летась, – удакладняе спецыяліст. – Гаворка пра 450 асобін. Пакуль яны знаходзяцца на ператрымцы. Да прыняцця новай рэдакцыі правіл паляўнічай гаспадаркі і палявання тэрмін перавтрымкі складаў да года. Цяпер – да паўтара. Звер павінны прывыкнуць да пэўнага месца. У гэты час у іх адбываецца першы ацёл. Па сутнасці, мы ствараем ім новую радзіму. І гэта не наш капрыз, гэта навукова абгрунтаваная практыка.

**За чатыры гады ў гаспадаркі таварыства завезлі амаль паўтары тысячы аленяў.**

– Спадзяюся, што ў найбліжэйшай будучыні алень у беларускіх лясах будзе быццам заяц, даступны кожнаму паляўнічаму, – заўважыў **Юры Шумскі**, старшыня праўлення Беларускага таварыства паляўнічых і рыбаловаў.

**Паводле sb.by.**

## Кірмашы ў Маладзечне – кожную нядзелю да 5 мая

МАЛАДЗЕЧНА

Ад 23 сакавіка да 5 мая штотыдзень па выхадных (субота і нядзеля) будуць праводзіць вясновыя кірмашы па продажы сельскагаспадарчай прадукцыі, сродкаў ахоўы раслін, угнаенняў, насення і пасадачнага матэрыялу, сельскагаспадарчага інвентару, харчовых тавараў.

**Месцы правядзення: плошча Старое Места, вуліца Ларына (пляцоўка перад гандлёвымі павільёнамі ў раёне сярэдняй школы № 9 г. Маладзечна), вуліца Прытыцкага (пляцоўка за домам №3), вуліца Спаская (тэрыторыя, прылеглая да ГК №21), скрыжаванне вуліц Міру і Будаўнікоў (пляцоўка на аўтамабільнай паркоўцы).**

4 мая ў Маладзечне адбудзецца вясновы рэгіянальны кірмаш з удзелам арганізацый Вілейскага, Валожынскага, Дзяржынскага, Лагойскага, Мінскага, Маладзечанскага, Мядзельскага, Смалявіцкага раёнаў і Жодзіна.

**Аддзел інфармацыі.**

## Папулярызацыя і развіццё жаночага футбола. Якое дачыненне да гэтага мае Смаргонь?

СМАРГОНЬ

22 сакавіка ў Смаргоні адбыўся футбольны фестываль, у якім удзельнічалі каманды дзяўчат 2006–2008 гадоў нараджэння з гарадскіх і сельскіх школ раёна.

– Беларусь трапіла ў пілотны праект па папулярызацыі і развіцці жаночага футбола, ініцыяваны Асацыяцыяй «Беларуская федэрацыя футбола» (АБФФ), Саюзам еўрапейскіх футбольных асацыяцый (УЕФА) і Міжнароднай федэрацыяй футбола (ФІФА). Сумеснымі намаганнямі гэтых арганізацый ужо ствараюць лігу, у якой будуць гуляць каманды дзяўчат 2006–2008 гадоў нараджэння. Для таго, каб сфарміраваць каманду са Смаргоні, якая будзе ўдзельнічаць у гэтым праекце, адабраць найбольш таленавітых дзяўчат, мы правялі гэтыя спаборніцтвы, – расплумачыў трэнер ДЮСШ па футболе **Віталь Арцёменка**.

Па выніках спаборніцтваў каманда СШ №5 выйграла гэты турнір. Прадстаўніцы СШ №7 і СШ №3 падзялілі паміж сабой другое і трэцяе месцы. Усе ўдзельніцы фестывалю атрымалі памятныя прызы. Лепшым гульцом турніру стала **Вераніка Аўгустовіч** з СШ №5.

Віталь Арцёменка адзначыў, што па выніках спаборніцтваў вызначыліся кандыдаткі, якія ўвойдуць у зборную каманду Смаргоні.

Урачыстае адкрыццё вышэйназванага пілотнага праекта з удзелам прадстаўнікоў ФІФА, УЕФА і АБФФ адбудзецца ў Смаргоні 6 красавіка.

**Сяргей ЮРЭВІЧ,**
**паводле shliah.by.**

## ХК «Дынама-Маладзечна» згуляе ў серыі за трэцяе месца

МАЛАДЗЕЧНА

Абыграўшы ў чацвертым матчы паўфінальнай серыі Кубка Прэзідэнта «Дынама-Маладзечна» (6:3), «Юнацтва» стала першым фіналістам розыгрышу і забяспечыла сабе, як мінімум, срэбраныя медалі. Дынамаўцы таксама не скончылі сезон – ім трэба будзе пазмагацца за «бронзу» ў серыі да трох перамог.

Першыя матчы фіналу намечаны на 3 красавіка. Ужо вядома, што 3, 4 і, калі спатрэбіцца, 10 і 14 чысла каманды згуляюць на лёдзе «Чыжоўка-Арэны». 7 і 8, а таксама, у выпадку патрэбы, 12 мая мінчан чакаюць выязныя сустрэчы ў Салігорску або Гродне.

Матчы ў серыі за трэцяе месца пройдуць 5, 6, 9 і, калі спатрэбіцца, 10 і 12 (або 13) красавіка. Уладальнікам бронзавых медалёў стане каманда, якая атрымала тры перамогі ў серыі.

**Паводле hockey.by.**

## Ашмянская гандбольная каманда завяршае свае выступленні ў дзіцяча-юнацкай спартыўнай школе

АШМЯНЫ

Ашмянская гандбольная каманда дзяўчат 2002–2004 гадоў нараджэння завяршае свае выступленні ў камандзе Ашмянскай дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы імя Барбашынскага. Зусім хутка выпускніцы 11 класаў разляцяцца па ўніверсітэтах і каледжах краіны.

– Каманда склалася выдатная, працавітая. Упартая работа была ўзнагароджаная. Летась гандбалісткі сталі другімі на Алімпійскіх абласных Днях моладзі, саступіўшы толькі камандзе гандбалістак Гродна. Каманда выканала першы дарослы разрад па гандболе, у 2017 годзе выйграла спартакіяду Гродзенскай вобласці, – распавяла трэнер **Вера Мальцава**.

На сёння ў камандзе дзесяць чалавек, дзве спартсменкі **Ілона Сымановіч** і **Анастасія Смалонская** вучацца за межамі раёна, але пры неабходнасці могуць падтрымаць каманду на спаборніцтвах. У ашмянскіх гандбалістак усе спаборніцтвы ўжо завершаныя, аднак трэніроўкі працягваюцца. **Юлія** і **Дыяна Мешчановічы**, **Кацярына Бярнат**, **Ксенія Кругляк**, **Аліна Міхалькевіч**, **Паліна Свірская**, **Дар'я Сідарук**, **Аліна Янушкевіч**, **Святлана Трэпет**, **Дар'я Заянчкоўская** спяшаюцца пасля ўрокаў у спартыўную школу на трэніроўкі.

– Мы ўсе хварэем на гандбол, – распавялі дзяўчаты. – Менавіта ў камандзе ў нас сфарміравалася пачуццё дружбы, згуртаванасці, калектывізму. Усе гэтыя гады з намі была Вера Аляксееўна.

Мальцава ўпэўненая, каманда гандбалістак не падвядзе: вытрымае выпрабаванні экзаменамі і далейшай вучобай, вызначыцца з выбарам жыццёвага шляху.

**Ганна ДАВІДОВІЧ,**
**паводле osh.by.**

Фота mixfight.ru.

Аляксей Кудзін.

# Баец з Маладзечна выклікаў Емяльяненку-малодшага

**Днямі беларускі цяжкавагавік Аляксей Кудзін кінуў выклік Аляксандру Емяльяненку. У гутарцы з блогерам Аляксандрам Люцікавым беларус заявіў, што гатовы пабіцца з малодшым з братоў і абяцае зладзіць шоу, якому пазайздросцяць.**

МАЛАДЗЕЧНА

«Я Аляксандра без усялякага злога намеру запрашаю на бой са мной. Аляксандр – сусветны клас ударнай тэхнікі, я таксама неаднаразовы чэмпіён свету па кікбоксінгу і па тайскім боксе, таму мы можам паказаць такі бой, што сусветныя топавыя арганізацыі ачмурэюць. Мы зладзім добрую славянскую рубку», – сказаў Кудзін.

### Хто такі Кудзін?

34-гадовы ўраджэнец Маладзечна, па мянушцы Кірпіч, выступае ў тайскім боксе, кікбоксінгу і змешаных адзінаборствах. У Аляксея каля дзясятка тытулаў на чэмпіянатах свету сярод аматараў. На прафесійным узроўні яго поспехі значна больш сціплыя – пояс чэмпіёна свету па кікбоксінгу па версіі WBKF і перамогі на некалькіх турнірах ММА ў Расіі. Тым не менш, Кірпіч лічыцца адным з лепшых беларускіх цяжкавагавікоў.

Большасць баёў прадстаўнік мінскай Акадэміі ММА правёў у прамоўшане ўсходніх суседзяў, дзе выходзіў у клетку з расійскімі топамі цяжкай вагі **Аляксандрам Волкавым**, **Сяргеем Паўловічам** і **Сяргеем Харытонавым**, праўда, прайграў усе тры баі. Усяго ў кар'еры беларуса 36 прафесійных паядынкаў, 24 з якіх скончыліся поспехам (17 накаўтам). У расійскім рэйтынгу цяжкавагавікоў Кудзін займае 11 месца, а ў сусветным, па версіі сайта tapology.com, – 105.

Цяпер Аляксей у Піцеры, дзе дапамагае сваім былым апанентам Волкаву і Паўловічу рыхтавацца да турніру UFC. Беларус упэўнены, праца ў лагеры расійскіх калегаў дазволіць яму набраць добрую форму і даць бой Емяльяненку-малодшаму.

### Чым займаўся Емяльяненка ў апошні час?

Аляксандр падпісаўся з клубам «Ахмат». З тых часоў Емяльяненка-малодшы выйграў пяць паядынкаў, у тым ліку адправіў у накаўт былых байцоў UFC **Габрыэля Гангага** і **Віктара Пешту**, а апошні бой летась у жніўні з **Тоні Джонсанам** звёў унічыю. Емяльяненка быў раздушаны ў партэры, але суддзі не адважыліся аддаць перамогу госцю на вачах у **Рамзана Кадырава**. Затым кар'ера расіяніна застапарылася. Ён спыніў супрацоўніцтва з «Ахматам», з-за траўмы зняўся ў баі супраць яшчэ аднаго былога прадстаўніка UFC **Францісмара Баразоў** і трапіў за краты. У Кіславодску спартсмена «ўзялі» за кіраваннем у нецвярозым стане. Ён атрымаў 10 сутак за непадпарадкаванне паліцыі. Баец абвінавачцу ў інцыдэнце супрацоўнікаў праваахоўных органаў і паспрабаваў абскардзіць рашэнне суда, але атрымаў адмову. З-за скандалу расійскі прамоўшан RCC прыпыніў кантракт з Аляксандрам і адмяніў яго паядынак, які быў запланаваны на 4 мая.

### Калі бой адбудзецца, хто пераможа?

Выклік Кудзіна Емяльяненка пакуль ніяк не пракаментаваў. Ён плануе выступіць 10 мая на турніры «Бітва на Волзе», але яго саперніка пакуль афіцыйна не абвясцілі. Малодшы з братоў адмаўляецца біцца з расіянамі і хоча атрымаць замежніка. Найбольш верагодным кандыдатам з'яўляецца брытанец **Олі Томпсан**, які правёў чатыры баі ў UFC і Bellator, але ўсе прайграў.

Калі расіянін усё ж такі захоча задаволіць «славянскую рубку» і прыме выклік беларуса, то ў двубоі ён будзе відавочным фаварытам. Емяльяненка – больш умелы і статутны баец, які таксама крута баксуе. Аляксандр набраў выдатную форму і разбіраўся з досыць дасведчанымі сапернікамі, пра якіх гаварылася вышэй. Поспехі Кудзіна ўсё ж выглядаюць больш сціпла. Напрыклад, Пешта, якога расіянін адправіў у накаўт, у свой час задушыў ураджэнца Маладзечна ў першым раўндзе. Аднак многае будзе залежаць ад таго, у якім стане пасля прастою і скандалаў будзе сам Емяльяненка.

Тым не менш, для заўзятараў бой павінны быць цікавым. Расіянін і беларус – ударнікі і, хутчэй за ўсё, вырашылі б усё на кулаках. Гэта пацвярджае і Кудзін: «Мне цікава праверыць сваю ўдарную моц менавіта з такім чалавекам. У нас бой да канца не працягнецца – хтосьці кагосьці пасадзіць на пятую кропку».

**Паводле by.tribuna.com.**



# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
1. У секцыі «Піраты Карыбскага мора» ў Дыснэйлэндзе ёсць гэты прадмет, які некалі належаў чалавеку.
4. Усякая жывая істота, акрамя раслін.
6. Павел Саковіч: «Гэты час люблю дзівосны! Салаўіны ранні золак. Тчэ вясна на вечных кроснах Дываны з чароўных зёлак».
7. Млекакормячая жывёліна, якая па будове свайго цела з'яўляецца самай блізкай да чалавека.
8. Кусты, зараснікі дробных маладых дрэўцаў.
11. Парушэнне нармальнай жыццядзейнасці арганізма.
12. Месяц у першай квадры.
13. Колькасць нечага, што змяшчаецца ў далоні са сціснутымі пальцамі.
16. Прозвішча мастака, які напісаў вядомую карціну «Паляўнічыя на прывале».
18. Дадайце ў спіс яшчэ адзін горад з такім жа значэннем. Нью-Ёрк, Напаль, Нейнбург, Вільнеў, Вамланаў.
20. Бетховен гатаваў гэты напой роўна з 64 зярнятак.
22. Існаваць.
23. Прозвішча прэзідэнта ЗША, чыя радаслоўная паходзіць ад Яраслава Мудрага праз яго дачку Ганну, што стала жонкай французскага караля Генрыха Першага.
26. Навука пра рэчывы, іх будову, састаў, уласцівасці і ўзаемныя ператварэнні.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
2. Які не падабаецца; непрыемны, брыдкі.
3. Густая салодкая маса з працёртых ягад або фруктаў, звараных з цукрам.
5. Прыстасаванне з дзвюх пласцін, якія збліжаюцца пры дапамозе шрубы для заціскання і ўтрымання прадмета пры апрацоўцы.
8. Ваенная рэакцыйная тэрарыстычная групоўка.
9. Сукупнасць устойлівых псіхічных уласцівасцяў чалавека, яго асабістых рыс, якія праяўляюцца ў паводзінах і дзейнасці.
10. Праследаванне таго, хто ўцякае.
14. Кожную раніцу сюды прывозяць дробныя камяні для турыстаў.
15. Непразрыстая, лёгкая пузырыстая маса, якая ўтвараецца на паверхні некаторых вадкасцяў ад калыхання, узбоўтвання, награвання, браджэння.
17. Абавязацельства выканаць якую-небудзь работу за пэўную плату, а таксама работа, што выконваецца паводле такога абавязацельства.
19. Галіна мастацтва, якая адлюстроўвае рэчаіснасць у гукавых мастацкіх вобразах.
21. Буйны калючы пясок, дробныя каменьчыкі, якія ўтвараюцца ад разбурэння горных парод.
22. Прафесійны яздок на конных скачках.
24. Член царкоўнай абшчыны, які жыве ў манастыры, даўшы абяцанне весці аскетычны лад жыцця.
25. Рака, праз якую едуць у Мядзел з поўдня.
27. У спорце – пастава, пры якой цела выгнутае грудзьмі ўверх з апорай на далоні і пяткі.

## Адказы на крыжаванку з №12

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 2. Малпа. 3. Ланцуг. 5. Сажалка. 6. Чары. 7. Птушкі. 8. Паштальён. 11. Чапля. 12. Ласцік. 14. Магма. 16. Сала. 17. Жэнева. 19. Санскрыт. 23. Міксер. 25. Дзеці. 27. Бяроза.
**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Назоўнік. 4. Светлы. 6. Чыгунка. 9. Цырата. 10. Іпатэка. 13. Мандарын. 15. Лазня. 18. Цотны. 19. Сектар. 20. Лінія. 21. Анкара. 22. Бродскі. 23. Мост. 24. Лесвіца. 26. Цукерка.



## ГАРАСКОП 29 САКАВІКА – 4 КРАСАВІКА



**АВЕН.** Не адмаўляйце сабе ў задавальненні жыць так, як вам хочацца. Закіньце ўсе не тэрміновыя справы, займіцеся тым, што сапраўдны важна цяпер. І не сумнявайцеся ў сваім поспеху, вы можаце самі кіраваць ім.



**ЦЯЛЕЦ.** Калі вы не можаце вызначыцца, купіць канапу ці адправіцца ў падарожжа, – заўсёды выбірайце другое. Радасць і станоўчыя ўспаміны нашмат лепш за матэрыяльныя рэчы.



**БЛІЗНЯТЫ.** Адносіны з блізкімі людзьмі застынуць на мёртвай кропцы. Гэта і добра. Аднак калі раптам і ўзнікнуць рознагалоссі, то вам лепш не ўнікаць у сутнасць праблемы. Спакойна слухайце і запамінайце кінутыя ў сэрцах словы, але з адлегласці.



**РАК.** Вам трэба будзе зрабіць важны выбар. Вы даўно чакалі нейкай прапановы і хутка яе атрымаеце. Вырашыцца будзе на так проста, але парада, атрыманая ад сяброў, дазволіць вызначыцца. Вы станеце карыстацца яшчэ большым аўтарытэтам, праявіце сябе з уладнага боку.



**ЛЕЎ.** Сямейныя абавязкі стануць для вас цяжкім грузам. Увогуле можа пагоршыцца самаадчуванне, асабліва калі вы грэбуеце падтрымкай сваёй фізічнай формы. Тое, як вы справіцеся з абставінамі гэтага перыяду, залежыць ад вашых поглядаў і сталасці.



**ДЗЕВА.** Крыніцай натхнення стане для вас любімая работа. Нават калі яна забярэ шмат сіл і часу, затое падорыць маральнае задавальненне і добрае матэрыяльнае ўзнагароджанне.



**ШАЛІ.** Перад вамі адкрываюцца цудоўныя перспектывы, але гэта не значыць, што вам трэба спяшацца. Наадварот, перыяд патрабуе ад вас скрупулёзнасці і ўзважанасці. А калі будзеце ўсё рабіць бягом, то можна праляцець сваю ўдачу без прыпынку.



**СКАРПІЁН.** Калі з кім у жыцці прыйдзецца расстацца, то не шкадуйце, замест старых адносін узнікнуць новыя, і яны атрымаюць другое дыханне. Будзьце да сябе больш паблажлівыя, не патрабуйце ад сябе шмат. Пры адстойванні сваіх інтарэсаў праявіце настойлівасць.



**СТРАЛЕЦ.** Стрыманасць і спакой – неабходныя ўмовы для захавання высокага жыццёвага патэнцыялу і добрага адчування на працягу ўсіх дзён. Нязначныя спрэчкі з блізкімі людзьмі вы з лёгкасцю пераадолееце, калі будзеце гатовыя саступіць хоць трохі.



**КАЗЯРОГ.** Каб падтрымліваць цяпло і ўтульнасць дамашняга ачага, а таксама камфортныя адносіны з блізкімі вам людзьмі, недастаткова проста карыстацца гэтымі адносінамі. Трэба прыкласці нямала намаганняў, у тым ліку і над сабой.



**ВАДАЛЕЙ.** Каб атрымаць перамогу, вам неабходна ацаніць сябе і ўсе свае матывы справядліва. Бо самы галоўны вораг – вы самі. Вы ставіце ўсё пад сумненне, не верыце ў свае сілы і здольнасці. Паверце ў сябе, і шлях да поспеху будзе нашмат прасцейшы.



**РЫБЫ.** Вы атрымаеце ўсё неабходнае, каб ажыццявіць свае жаданні і даўно задуманыя планы. Выберыце асноўны накірунак для дзейнасці і праявіце максімум працавітасці і намаганняў для дасягнення мэты.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 9 | 8 | | | 4 | | | | 3 |
| 7 | 2 | 1 | | | | 9 | | |
| | 6 | | | | | 5 | | |
| | | 4 | | | | 8 | 2 | |
| 1 | | 2 | | | | 7 | | 6 |
| | 9 | | 1 | | | 3 | | |
| 5 | | 8 | | | 4 | | | |
| 3 | | 9 | | | 6 | 4 | | |
| | | | 7 | 3 | 5 | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015



● ПРОСТА АНЕКДОТ

**Аб'явы:**

• Вяжам дзіцячыя світаркі толькі з воўны бацькоў.

• Дзеці да пяцігадовага ўзросту прыходзяць у цырк на руках.



## Вясновым сонейкам сагрэта «Рэгіянальная газета»

## Падпішыцеся на другі квартал! Падпісацца на «РГ» можна:

✓ **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Цiснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета»

✓ **на пошце**
✓ **праз паштальёна**
✓ **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі** на месяц – 4 рублі 20 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі** на месяц – 12 рублёў 50 капейкі.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

## 30 сакавіка, субота

**Вецер:** заходні, 6-7 м/с

| Горад | Ноч | Дзень | Надвор'е |
| --- | --- | --- | --- |
| Астравец | +3 | +10 | Значная воблачнасць |
| Мядзел | +3 | +9 | Воблачна |
| Смаргонь | +3 | +10 | Воблачна |
| Вілейка | +3 | +9 | Воблачна |
| Ашмяны | +3 | +10 | Воблачна |
| Маладзечна | +3 | +9 | Воблачна |
| Валожын | +4 | +10 | Хмарна з праясненнямі |

Усход 6.50
Захад 19.44
Даўжыня дня 12.54

Усход 5.01
Захад 13.04
Месяц на сходзе

**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. ВІЛЕЙКА**

Мінімальная тэмпература -12,5°С у 1955 годзе
Максімальная тэмпература +17,8°С у 1968 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 7,6 мм у 1993 годзе
Паводле meteoinfo.by.

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

# Як вы жартавалі са знаёмых на 1 красавіка?

**Леанід Казлоўскі, студэнт, Маладзечна:**

– Знаёмы рыхтаваўся да вышмату. Ён быў лютым гульцом у «Доту», часта выпадаў з часу. На пары ўставаў у сем. Усім блокам у тры гадзіны зрабілі выгляд, што ўжо сем. Паставілі будзільнік, перавялі час. Хлопец устаў і пайшоў. Дайшоў да метро, закрыта. Патэлефанаваў маме. Яна і сказала час.

**Настасся Шыдлоўская, у дэкрэтным адпачынку, Маладзечна:**

– Амаль ніколі не жартавала. Хаця аднойчы «развяла» цётку. Сказала ёй, што зацяжарала і вельмі баюся сказаць пра гэта маме. Тая паспрабавала супакоіць мяне і прыдумаць план, як расказаць маці. А потым яна сама зразумела, што 1 красавіка.

**Алег Бабіч, кіроўца-экспедытар міжнародных грузаў, Ашмяны:**

– Патэлефанаваў неяк сябру з чужога нумара, сказаў, што турбуюць з міліцыі, тыпу ваша дзіця даставілі ў аддзел. Яшчэ калісьці патэлефанаваў сябру, сказаў, каб той чайнік паставіў, хутка буду. Праз дзесяць хвілін набраў і спытаў, ці закіпеў. Потым яшчэ праз 20.

**Соф'я Кірава, у дэкрэтным адпачынку, Маладзечна:**

– Паставіла будзільнік мужу на 6:00, на кнопкі гумкі – каб не выключыў. Кінула ў слоік, абматала скотчам тэлефон. Слоік паставіла ў вядро. Пакуль спаў, нафарбавала яму пазногці чырвоным лакам. Шэсць раніцы, будзільнік на ўвесь дом, ламануўся на кухню. Пасля сам смяяўся.

**Арына Тархан, школьніца, Маладзечна:**

– Калі мне было сем, мама паклала нашаму папугаю курынае яйка, сказала, што яго знёс папугай. У школе з дзяўчынкамі вырашылі пасмяяцца з хлопчыкаў, набылі мармеладкі ў цукры, дома з татам змылі цукар і ўкачалі ў соль. Пачаставалі аднакласнікаў, некаторым спадабалася.

**Антон Малахаў, адміністратар сетак, Маладзечна:**

– Са школы былі прыколы з падменай літар М і Ж на туалетах. Ва ўніверы, калі на лекцыі двое хлопцаў заснулі, прапанавалі выкладчыку перайсці ў іншую аўдыторыю, той быў згаворлівы. Пакінулі тэлефон з камерай уключанай, каб потым рэакцыю паглядзець.

**Ірына Бубнова, студэнтка, Маладзечна:**

– Сама не жартавала, але сяброўка расказала, як у чацвертым класе прыйшла за дзве гадзіны да ўрокаў і завязала ўвесь другі паверх ніткамі і скотчам – ад батарэй да дзвярных ручак і сцен. Было не прайсці.

**Падрыхтавала Таццяна КАСЬЯН.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4200 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№13 (1248) 29.03.2019. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 482. Падпісана ў друк у 9.00 28.03.2019.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.